# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(102) Ліпень 2002 July Год выд. 10.


## КАНГРЭС ЗША АБМЯРКОЎВАЕ "АКТ АБ ДЭМАКРАТЫІ Ў БЕЛАРУСІ"

Сустаршыня Гельсынкскай камісіі Кангрэсу ЗША сябра Палаты прадстаўнікоў Крыстафэр Сьміт прапанаваў на разгляд ніжняй палаты амэрыканскага парлямэнту "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі". Гэты законапраект, прапанаваны летась сэнатарам Гелмсам, прадугледжвае жорсткія эканамічныя санкцыі супраць цяперашніх беларускіх уладаў, а таксама меры падтрымкі апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.

"Законапраект "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі" ўносіцца на разгляд амэрыканскіх заканадаўцаў другі раз. Чаму спатрэбілася ў дадатак да законапраекту сэнатара Джэсі Гелмса ўносіць паўторна такі ж законапраект і кангрэсмэну Крыстафэру Сьміту?"

"Сэнатар Гелмс выступіў са сваім праектам 7 лістапада 2001 году ў Сэнаце. Каб законапраект стаў законам, патрабуецца пастанова дзьвюх палатаў – вось цяпер выкананая другая частка працэсу. Важна, што так званым спонсарам, ці аўтарам прапановы, выступіў Крыстафэр Сьміт, які узначальвае сумесную дзьвюхпалатавую Гельсынскую камісію Кангрэсу ЗША. У 2000 годзе кангрэсмэн Сэм Гейдэнсан прапанаваў свой дакумэнт аб сытуацыі ў Беларусі, які быў прыняты без абмеркаваньня і дзейнічаў год. Такім чынам, мы назіраем пасьлядоўную зацікаўленасьць амэрыканскага Кангрэсу сытуацыяй у Беларусі. Канрэсмэн Сьміт называе стан правоў чалавека ў Беларусі жахлівым – найгоршым у Эўропе".

"Ачым адрозьніваюцца два законапраекты?"

Галоўны сэнс дакумэнта: спрыяць дэмакратыі ў Беларусі праз дапамогу партыям, недзяржаўным арганізацыям, незалежным СМІ, а таксама ужываць карныя санкцыі супраць уладаў, у тым ліку ўвесьці эканамічныя, фінансавыя, гандлёвыя абмежаваньні. Таксама ўрад ЗША мусіць працаваць зь іншымі эўрапейскім краінамі і дамагацца прыняцьця імі падобных мераў. Беларусь павінна выконваць умовы АБСЭ як у справе ўнутранага дэмакратычнага працэсу, гэтак і ў справе зьніклых людзей. Прозьвішчы чатырох зьніклых фігуруюць ва ўсім тэксьце.

У законапраекце Гелмса гаворыцца пра непрызнаньне нацыянальнага сходу і прызнаньне ў якасьці легітымнага парлямэнту Вярхоўнага Савету 13 скліканьня. У дакумэнце Сьміта такога запісу пра Вярхоўны Савет ужо няма. І яшчэ адно адрозьненьне – сэнатар Гелмс прапанаваў вылучыць 30 млн даляраў на ажыцьцяўленьне дапамогі ў 2002 фінансавым годзе. Цяпер у кангрэс прадстаўленая іншая лічба – 40 млн, але на два фінансавыя гады: 2003 і 2004…

Якія менавіта санкцыі прадугледжаны законапраектам...

Гэта забарона на ўезд у ЗША вышэйшым службоўцам і членам іхных сем'яў; забарона стратэгічнага экспарту ў Беларусь – кампутараў, тэхналёгіяў, усяго, што магло б быць выкарыстанае вайскоўцамі, спэцслужбамі ці, напрыклад, у турмах – за выняткам прадукцыі гуманітарнага прызначэньня. ЗША ня будуць аказваць ніякай фінансавай дапамогі ўраду Беларусі, будуць скасаваныя гандлёвыя льготы. Прадстаўнікі ЗША ў міжнародных арганізацыях будуць забавязаныя галасаваць супраць адпаведных просьбаў Беларусі. Могуць быць заблякаваныя активы Беларусі ў ЗША.

Хто, паводле законапраекту, уваходзіць у вышэйшае кіраўніцтва Беларусі?

Паводле тэксту, у тэрмін "вышэйшае кіраўніцтва Беларусі" ўключаюцца прэзыдэнт Беларусі, прэм'ер-міністар, віцэ-прэм'еры, міністры ўраду і іхныя намесьнікі; старшыня Нацыянальнага Банку Беларусі; службоўцы КГБ Беларусі, міліцыі і любых іншых рэпрэсіўных органаў; любыя службоўцы Ўраду Беларусі, якія маюць дачыненьне да здушэньня свабоды ў Беларусі, у тым ліку судзьдзі і пракуроры; любыя службоўцы Ўраду Беларусі, непасрэдна прызначаныя Аляксандрам Лукашэнкам, і службоўцы прэзыдэнцкай адміністрацыі.



%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%

## М.Пастухоў: прысуд гродзенскім журналістам -- незаконны

Кіраўнік Цэнтра прававой абароны пры Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ), прафесар Міхаіл Пастухоў назваў прысуд у адносінах да гродзенскіх журналістаў Мікалая Маркевіча і Паўла Мажэйкі, прызнаных вінаватымі ў паклёпе на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, незаконным.

Каменціруючы вынікі судовага разгляду, ён, тым не менш, сказаў, што "адбылося тое, што павінна было адбыцца ва ўмовах нашай беларускай рэчаіснасці". "Суд прадэманстраваў сваю несамастойнасць, сваю звязанасць доказамі пракуратуры. Паказаў, што гатовы найперш разглядаць не доказы, не факты, а ў большай ступені ўлічваць палітычную абстаноўку ў краіне. Якіх-небудзь доказаў па справе не было здабыта. Суд зыходзіў з прынцыпу прэюдыцыі, заснаваўшы прысуд у тым ліку і на раней вынесеным рашэнні Вышэйшага гаспадарчага суда, які ліквідаваў газету "Пагоня". У прыгаворы ёсць фраза, што факт паклёпу ў адносінах да прэзідэнта, які ўтрымліваецца ў публікацыях газеты "Пагоня", быццам бы даказаны падчас працэсу ў Вышэйшым гаспадарчым судзе. Але я тады быў прадстаўніком рэдакцыі газеты. Гэты факт абсалютна не даказваўся, але быў уключаны судом як быццам бы спецыяльна пад будучую крымінальную справу. Аднак прынцып прэюдыцыі ў дадзеным выпадку не да месца, паколькі гаспадарчы суд ніяк не можа даказваць факт паклёпу. Для гэтага ўстаноўлены грамадзянскі парадак. Нам дагэтуль незразумела, ці даваў згоду Лукашэнка, каб яго прызналі асобай, якая пацярпела ад паклёпу".

Міхаіл Пастухоў адзначыў таксама, што доказы віны журналістаў былі атрымыны следствам са шматлікімі працэсуальнымі парушэннямі і не маглі быць пакладзены ў аснову абвінавачання…

БелаПАН.

**********************************************

## Кошт свабоды слова ў Беларусі:

Два з паловай гады абмежаваньня свабоды рэдактару гродзенскай незалежнай газэты "Пагоня" Міколу Маркевічу і два гады абмежаваньня свабоды журналісту Паўлу Мажэйку.

Такі жорсткі прыгавор вынесла ўчора "суддзя" ленінскага раёна г.Гродна Таццяна Клімава двум мужным журналістам.

Іх абвінавацілі ў паклёпе на прэзідэнта. У ходзе суда нашы калегі не прызналі сябе вінаватымі.

Трымайцеся, сябры! Мы -- з вамі! Беларусь не забудзе вашу мужнасць!

Ганьба, так званай, "судзьдзі" Т. Клімавай!..



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар* (Народная Воля)

# **Слова** да дэпутатаў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Да Вас звяртаецца чалавек сталага веку і з немалымі тэарэтычнымі ведамі па праблеме нацыянальна-культурнага развіцця народаў планеты Зямля. Без усялякіх адступленняў адразу заўважу: Вы ажыццяўляеце цалкам памылковую, супярэчную карэнным інтарэсам тытульнага народа нацыянальную палітыку, асабліва ў галіне яго моўнага развіцця.

Самае слабое месца нацыянальна-моўнай палітыкі нашай дзяржавы заключаецца ў тым, што яе ідэалагічныя структуры замест глыбокага і ўсебаковага аналізу прычын няўхільнага адыходу беларусаў ад свайго спрадвечнага роднага слова, замест пошуку дзейсных сродкаў па пераадоленні такога ненармальнага становішча прызналі апошняе ледзь не зусім гістарычна абгрунтаваным і непазбежным. Каб узаконіць яго, перашкодзіць усялякім спробам прагрэсіўных, нацыянальна-самасвядомых колаў грамадства спыніць асіміляцыю беларускага народа, Вы ў маі 1995 года прапанавалі яму моўны рэферэндум, наперад ведаючы, што адарваныя ўжо не ў першым пакаленні ад роднага слова людзі не будуць гарой стаяць за яго. Да таго ж у выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў, якая доўжылася не адно стагоддзе, працягвае яшчэ і пасёння заставацца такой, іх родная мова і раней, і на момант правядзення рэферэндуму была практычна зусім незапатрабаванай грамадствам. Калі верыць афіцыйным вынікам галасавання, па гэтых прычынах народ не выказаў належнай заклапочанасці пра яе лёс, згадзіўся на паралельнае выкарыстанне разам з ёю і рускай мовы, хутчэй за ўсё не разумеючы, што ў такім саперніцтве перамога ў абавязковым парадку акажацца на баку апошняй, паколькі не толькі на сваёй гістарычнай тэрыторыі, але і на нашай зямлі яна мела больш, чым беларуская мова, функцыянальны вопыт і прычым яшчэ перасягала яе тут па маштабе выкарыстання практычна ва ўсіх сферах грамадскай дзейнасці людзей, а таксама ў іх міжасобасных зносінах.

Як і многіх, мяне здзіўляла і не перастае здзіўляць, што палітыкі і блізкія да іх інтэлектуалы панаванне рускай мовы на Беларусі памылкова тлумачаць толькі адной адзінай прычынай: добраахвотным жаданнем яе народа карыстацца родным словам усходняга суседа. Яны ніяк не хочуць пагадзіцца з тым, што на працягу некалькіх стагоддзяў руская мова не стыхійна, не добраахвотна, а пад вялікім прымусам, а дзе-нідзе і з дапамогай вельмі тонка прыдуманай і ўдала праведзенай ідэалагічнай апрацоўкі людзей распаўсюджвалася ў нашым краі. У сувязі з гэтым нагадаю, што літаральна ўжо ў першы ж год далучэння да Расіі ўсходніх беларускіх земляў (1772) у выніку падзелу Рэчы Паспалітай імператрыца Кацярына II выдала 28 мая 1772 г. Наказ, у адпаведнасці з якім і тут толькі на расійскай мове павінны былі складацца ўсе службовыя дакументы. У маі наступнага года Кацярына II падпісала Наказ "Аб заснаванні ў Беларускіх губернях губернскіх і правінцыйных земскіх судоў", якім таксама прадпісвалася ў іх справаводстве карыстацца толькі рускай мовай. У выніку да самастойнага і арганізаванага вывучэння апошняй гужам пацягнуліся шырокія колы мясцовага чынавенства. Ад гэтага часу той з беларусаў, хто жадаў займаць пасады ў расійскіх дзяржаўных, адміністрацыйных, судовых органах на Беларусі, пачаў глядзець на сваю родную мову, як на нейкую непатрэбшчыну, стараўся хутчэй забыцца на тое, да чаго прывык з маленства. Зараз для такіх людзей першаступеннае значэнне набывала авалоданне дзяржаўнай расійскай мовай, як мовай кар'еры.

Можна толькі пазайздросціць, з якой настойлівасцю і ўпартасцю цэнтральныя органы імперыі стваралі на беларускай зямлі расійскую сістэму народнай адукацыі. Ля вытокаў яе стаяла ўсё тая ж самая імператрыца Кацярына II. Прыбраўшы ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1792, 1795) да сваіх рук амаль усе беларускія землі, яна паставіла мэтай дзяржаўнай палітыкі ліквідаваць тут усё, што адрознівала іх насельніцтва ад рускіх. Дасягнуць гэтага збіраліся -- і не памыліліся -- галоўным чынам з дапамогай адпаведнай сістэмы адукацыі. Палітыкі тагачаснай Расіі і больш позняга перыяду, відаць, добра ведалі цану выказвання першага прэзідэнта Берлінскай акадэміі навук Готфрыда Лейбніца (1646--1716): "Аддайце мне выхаванне і, перш чым міне адно стагоддзе, я замяню абліччa Еўропы", таму ніяк не збіраліся будаваць дзейнасць навучальных устаноў на Беларусі з улікам нацыянальных, культурна-моўных традыцый яе карэннага насельніцтва.

Ні ў адзін з нацыянальных краёў Расіі яе цэнтральныя ўлады не пасылалі такіх заўзятых чыноўнікаў-русіфікатараў, як на Беларусь. Яны павінны былі не толькі перашкаджаць імкненню яе прагрэсіўных, высокага грамадзянскага гарту людзей да прыстойнага самабытнага этнакультурнага жыцця, але і не даць тут набраць яшчэ больш небяспечную моц польскаму ўплыву. Пільна сачыў за гэтымі працэсамі і не даваў ім магчымасці распаўсюдзіцца генерал-губернатар Беларускіх губерняў, князь І.Хаванскі. Без усялякіх хістанняў і сораму ў пасланай у 1824 годзе на імя імператара Аляксандра I запісцы ён прасіў распарадзіцца так, каб у гімназіях Беларусі "ўсе прадметы выкладаліся на расійскай мове", каб выпускнікі навучальных устаноў "не паступалі на грамадзянскую службу... без пасведчання аб добрых поспехах у рускай славеснасці" (падкрэслена мною. -- Л.Л.). І такое было зроблена пры пераемніку Аляксандра I Мікалаю I. Міне трохі часу і апошні атрымае ў 1843 годзе ад кіраўніцтва Міністэрства народнай асветы запіску, у якой паведамлялася: "Мова руская, гэты рухавік рускай народнасці, атрымала ў гэтым краі (Беларусі. -- Л.Л.) неаспрэчнае першынство. Там, дзе як гукі... былі чужымі і ненавіснымі (значыцца, было і такое! -- Л.Л.), яна вывучаецца з любоўю...".

Мікалай I звярнуў пільную ўвагу на моўны рэжым усіх формаў службовага справаводства. Яго крайне непакоіла, што пераемнікі Кацярыны II на царскім троне праявілі слабінку і дазволілі сям-там пранікнуць польскай мове ў канцыляры. Каб пакончыць з гэтай бядой, імператар выдаў у чэрвені 1840 г. указ, згодна з якім трэба было "ўсе справы, як па ўрадавай, так і па судовай частцы, не выключаючы і спраў дваранскіх Дэпутацкіх сходаў і правадзіцеляў, выконваць на рускай мове, па вызначаных для кожнага роду спраў агульнымі законамі імперыі формах, роўным чынам, і ад таго ж часу, усе ўвогуле акты і дакументы, якога б роду і наймення яны ні былі, пісаць на рускай мове...". Здаецца, ужо больш дзейснай формы прымусовага адміністрацыйнага ўкаранення рускай мовы ў службовае справаводства нашага краю і прыдумаць нельга было. Неўзабаве яна тут і сапраўды стала адзінай гаспадыняй. Беларускую мову не пускалі нават на ганак мясцовых урадавых і судовых органаў.

Пік русіфікацыі ў XIX стагоддзі прыпаў на гады, калі галоўным начальнікам Паўночна-Заходняга краю (тагачасная назва Беларусі) быў душыцель паўстання 1863--1864 гг. на чале з Кастусём Каліноўскім Міхаіл Мураўёў, а папячыцелем Віленскай навучальнай акругі (тады ў яе ўваходзіла ўся тэрыторыя Беларусі) -- Іван Карнілаў. Яны прыкладалі ўсе свае сілы, каб сярод насельніцтва гэтай зямлі ніколі не зарадзіўся рух за аддзяленне ад Расіі і ўтварэнне незалежнай уласнай дзяржавы. У сваіх частых даносах на адрас цэнтральнай улады Расіі М.Мураўёў настойліва прасіў яе тэрмінова абвясціць Беларускі край рускім, "не зважаючы ні на якія выкрыкі... уводзіць тут рускую народнасць", усталяваць у ім "на трывалым падмурку панаванне Расіі". Гэты заўзяты русіфікатар вельмі ўжо пільна сачыў сам і патрабаваў ад іншых, каб ва ўсіх відах службовага справаводства выкарыстоўвалася выключна толькі руская мова. Яго абразлівы для кожнага нацыянальна сумленнага беларуса заклік: "Патрэбна ўсім і стала тлумачыць, што край Паўночна-Заходні заўсёды быў і ёсць рускі", на працяглы перыяд прадвызначыў тут дзяржаўную нацыянальна-культурную, моўную палітыку. Прычым не толькі Расійскай імперыі. Дзякуючы нястомным стараням такіх людзей, як М.Мураўёў і І.Карнілаў, тагачасная Беларусьператварылася ў сапраўдную лабараторыю русіфікацыі.

Як вялікая ганьба ўспрымаецца, што ў М.Мураўёва былі і ёсць беларускай гадоўлі герастраты. Магчыма самым першым і найбольш актыўным з іх быў ураджэнец Гарадзеншчыны, прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі, грамадскі дзеяч Міхаіл Каяловіч (1828--1891). Ён адкрыта выказваў радасць і захапленне, што дзякуючы М.Мураўёву і яго саўдзельнікам, паслядоўнікам на ўсёй Беларусі "заснаваны шматлікія народныя вучылішчы і забяспечана правільнае, рускае вядзенне ў іх навучэння", што "аднаўлена ва ўсім адміністрацыйным, навучальным і грамадскім асяроддзі панаванне рускай мовы". Не сумняваюся, што гэтага адарванага ад нацыянальных традыцый навукоўца на ўсе сто працэнтаў задавальняў бы і сённяшні стан народнай адукацыі, дзяржаўнай моўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь. Ці вось такі кур'ёзны прыклад: адзін з паэтаў у канцы XIX ст. выказаў у сваім вершы ўпэўненасць, што М.Мураўёў застанецца "во век здесь на Литве (адна з назваў нашага краю. -- Л.Л.), как русское начало" (Белецкий А.В. Открытие музея графа М.Н.Муравьева, Вильна. 1901. С.30). А мо тут нічога кур'ёзнага і няма, улічваючы характар сучаснай дзяржаўнай культурна-моўнай палітыкі ў нашай краіне? Шчырыя прыхільнікі і непасрэдныя праведнікі палітыкі русіфікацыі ў больш познія часы ніколі не забываліся на тое, што дзеля яе зрабіў на Беларусі М.Мураўёў. Нібы на здзек з памяці тых людзей, што змагаліся і загінулі падчас нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў 1863--1864 гг., яму ў Вільні паставілі помнік, а 17 красавіка 1901 г. у адным з памяшканняў публічнай бібліятэкі гэтага горада ўрачыста адкрылі "Музей графа М.М.Мураўёва". У яго сем аддзелаў пастараліся сабраць даволі вялікую колькасць матэрыялаў пра "плённую" русіфікатарскую дзейнасць на беларускай зямлі віноўніка тых урачыстасцяў.

У год адкрыцця музея М.Мураўёва была выдадзена і прысвечаная яго дзейнасці на Беларусі брашура. Напісаў яе вядомы ў нашым краі чыноўнік і навуковец у галіне народнай адукацыі А.Бялецкі. Трэба аддаць належнае дару гэтага чалавека прадказваць будучае, у чым можна пераканацца з наступных слоў яго брашуры: "Асновы кіравання Пн.-З. (Паўночна-Заходнім. -- Л.Л.) краем, пакладзеныя Мураўёвым, застаюцца і, веруем, застануцца назаўжды нязменнымі, і край застанецца назаўжды рускім краем. Таму вывучэнне дзейнасці графа М.М.Мураўёва мае для жыхароў Пн.-З. краю не толькі гістарычны, але і практычны інтарэс: многія ж з'явы сучаснага жыцця краю знаходзяць сваё растлумачэнне менавіта ў распараджэннях графа М.М.Мураўёва. Наўрад ці трэба дадаваць да гэтага, што ў асаблівасці для асобаў, прызначаных на Гасудараву службу ў Пн.-З. краі, можа быць карысным і плённым вывучэнне Мураўёўскага часу. Гэтае навучанне цалкам пакажа ім, як ім трэба працаваць і служыць, каб саслужыць верную службу Цару і айчыне" (Расіі. -- Л.Л.).

І вернападданніцкі служыць расійскаму імператару было каму на Беларусі. Асабліва кішэла іх сярод чыноўнікаў ад народнай адукацыі і высокіх асобаў праваслаўнага духавенства. У многіх нацыянальных рэгіёнах імперыі ствараліся школы на роднай мове іх карэннага насельніцтва, а беларусам не спыняліся цвердзіць: "Вы ж рускія, таму скрозь і паўсюдна на вашай зямлі павінны панаваць рускія парадкі". І яны спраўды панавалі. Пераканаўчых прыкладаў мэтанакіраванай дзейнасці цэнтральных уладаў імперыі і мясцовай адміністрацыі па захаванні, далейшым распаўсюджванні на Беларусі рускіх культурна-моўных стандартаў было нямала і на пачатку XX стагоддзя. Калі нацыянальна-патрыятычным сілам яе і ўдавалася арганізаваць выданне на роднай мове свайго народа газет "Наша доля", "Наша ніва" і іншых, а таксама распачаць выданне на беларускай мове кніг і брашур, дык дасягалася гэта толькі цаною неверагодных высілкаў і без усялякай матэрыяльнай, фінансавай дапамогі дзяржавы. Праблема этнічнага выжывання беларусаў у складзе Расійскай імперыі не губляла сваёй вастрыні аж да самага распаду гэтага рэакцыйнага дзяржаўнага арганізма.

Цалкам адысці ад закладзенай Кацярынай II і прадоўжанай яе пераемнікамі палітыкі русіфікацыі беларускага народа не ўдалося і ў савецкі перыяд. З яго БССР, як ніякая іншая саюзная рэспубліка, выйшла з моцна разбалансаваным нацыянальна-культурным жыццём, у якім вельмі мала чаго захавалася па-сапраўднаму беларускага. І самае страшнае -- увасабленнем, выразнікам беларускай нацыянальнай ідэі перастала, за рэдкім выключэннем, быць інтэлігенцыя, якая ва ўсіх іншых народаў з'яўлялася і з'яўляецца самым шчырым і актыўным носьбітам іх культурна-моўных традыцый. Па ступені культурна-моўнай дэнацыяналізацыі не толькі не ўступаюць, а, наадварот, яшчэ і перасягаюць інтэлігенцыю нашыя дзяржаўныя дзеячы, на што няцяжка даць растлумачэнне. Абсалютная бальшыня прадстаўнікоў гэтых прэстыжных катэгорый грамадства не магла стаць носьбітам беларускіх культурна-моўных традыцый галоўным чынам таму, што іх шэрагі папаўняліся за кошт выпускнікоў рускамоўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Пасля іх заканчэння моладзь аказвалася больш здольнай жыць і працаваць у рускай, а не беларускай культурна-моўнай стыхіі, што выдатна пацвярджалася і пацвярджаецца на практыцы. Некалькі светлых гадоў апошняй хвалі нацыянальна-культурнага Адраджэння, што прыпалі на канец 80 -- пачатак 90-х гадоў XX стагоддзя, істотным чынам не паўплывалі на выратаванне этнакультурнай адметнасці, на ўмацаванне нацыянальнай кансалідацыі нашага народа. Яны працягваюць няўхільна разбурацца, а разам з гэтым знікае як самабытны этнас і сам беларускі народ. У афіцыйным духоўным жыцці краіны дзяржавай свядома аддадзены прыярытэты на беларускім, а рускім пачаткам. Такая роля дзяржавы

асабліва выразна праявілася пасля правядзення майскага рэферэндуму 1995 года, у выніку якога ўладныя структуры за два-тры гады "плённай" працы сацыяльныя функцыі беларускай мовы звялі да ўзроўню сярэдзіны 80-х гадоў, калі яна ўжо дыхала на ладан. Таму ніяк нельга пагадзіцца з галоўнай высновай растыражыраванага ў верасні 2000 года ў афіцыйным друку звароту 11 дэпутатаў Нацыянальнага схода Рэспублікі Беларусь "Мы хочам разам з вамі будаваць квітнеючую Беларусь!" Згодна з іх пазіцыі ў паслярэферэндумнай Беларусі "было вырашана моўнае пытанне, якое ў іншых постсавецкіх рэспубліках літаральна ўзрывала грамадскую згоду і прыводзіла да жорсткіх канфліктаў і крывавых войнаў".

Як вынікае з гэтых слоў звароту, моўнае пытанне карэннага народа Рэспублікі Беларусь вырашана нягледзячы і на тое, што яго роднае слова не ўжываецца ў дзейнасці саміх дзяржаўных органаў улады і кіравання, іх зносінах з грамадзянамі, амаль цалкам выключана з навучальна-выхаваўчага працэсу гарадскіх агульнаадукацыйных школ, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных школ, прафесійна-тэхнічнага навучання, мае ў параўнанні з рускай мовай крайне абмежаванае выкарыстанне ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі і ў іншых сферах грамадскай дзейнасці чалавека. З улікам такой сітуацыі ніяк нельга гаварыць пра вырашэнне моўнага пытання на Беларусі. Гэта -- велізарная памылка ці недаравальны падман народа палітыкамі высокага рангу. Трэба нарэшце набрацца смеласці і публічна заявіць, што ў нас яшчэ на дзяржаўным узроўні не прыступалі да сур'ёзнага вырашэння моўнага пытання. Усё аддадзена пад уладу стыхіі: будзе так, як скажуць засіміляваныя і маладасведчаныя ў праблемах нацыянальна-культурнага і моўнага развіцця краіны масы.

Усе народы, перад тым як навечна адысці ў нябыт, гублялі сваю родную мову, прычым часцей за ўсё па віне чужынцаў, прыгнятальнікаў. Добра прычыніліся яны, як паказана вышэй, і да адлучэння беларусаў ад роднага слова. Яго сучаснае гаротнае становішча ў грамадстве ёсць пераканаўчае сведчанне нашага франтальнага ўступлення ў завяршальную стадыю культурна-моўнай русіфікацыі. І як найвялікшы ў сусветнай практыцы парадокс, такая катастрофа з беларускім народам адбываецца на яго гістарычнай тэрыторыі і пры наяўнасці суверэннай (?), незалежнай (?) дзяржавы -- Рэспублікі Беларусь!

Пасля ўсяго вышэйсказанага як сын беларускага народа лічу сваім свяшчэнным грамадзянскім абавязкам звярнуцца да дэпутатаў Нацыянальнага схода Рэспублікі Беларусь з настойлівай просьбай: "Зрабіце для беларускай мовы на яе бацькоўскай зямлі тое, што зрабілі тут для рускай мовы Вашыя папярэднікі ў XIX і XX стагоддзях". Усё гэта ў Вашай уладзе...

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Дзіўная рэч...

Дзіўная рэч: як толькі з'явілася патрэба ў беларускамоўным каментарыі футбольных матчаў (гэта была адна з асноўных умоў трансляцыі чэмпіянату свету), высветлілася, што ніхто са спартыўных каментатараў на тэлебачанні не здольны добра размаўляць па-беларуску!

Не, увогуле элементарныя правілы маўлення ў рэдакцыі спартыўных праграм ведаюць, але адсутнасць пастаяннай моўнай практыкі адчуваецца вельмі востра. Доўгія пасажы (у якіх самі вядучыя блытаюцца і перарываюць іх больш звыклымі рускімі слоўцамі), папершае, адцягваюць увагу гледачоў і перашкаджаюць успрымаць гульню, а па-другое, гучаць штучна. Як слушна заўважыў нядаўна галоўны рэдактар беларускага радыё пісьменнік Навум Гальпяровіч, ніводны з радыё- і тэлекаментатараў не ўмее працаваць у жывым эфіры, і нават у запісе не заўсёды кантралюе ўласнае маўленне. Вось і атрымліваем мы ў футбольных рэпартажах «шэдэўральныя» выразы накшталт «мелкая перадача», «тонкая провалака», «пакрышачку», «больш весялей», «выканальнік», «радзі чаго», «шчас», і да т. п. Найбольш піпьменныя каментары Уладзіміра Навіцкага, але затое ў яго з-за павышанай эмацыянальнасці на абедзве нагі кульгае логіка.

Раней з дыктарамі праводзілася вельмі сур'ёзная работа: націск, канчаткі праўляліся па слоўніках. Сёння хіба што сама аўдыторыя — праз лісты і званкі — дапамагае сачыць за чысцінёй роднай мовы. Кароткатэрміновыя курсы павышэння кваліфікацыі пры факультэце журналістыкі вялікай ролі не адыгрываюць. Магчыма, ёсць сэнс кіраўніцтву БТ прыслухацца да прапановы дацэнта БДУ Марыі Карповіч і стварыць на тэлебачанні метадычную службу маўлення, якая будзе выпраўляць памылкі, не дапускаючы іх выхаду ў эфір. Магчыма таксама пераняць прынцып беларускага радыё, дзе за моўную неакуратнасць журналісты падлягаюць фінансаваму пакаранню. Усё ж 78 працэнтаў насельніцтва рэспублікі — беларусы, і яны маюць права на чыстую ад памылак, бюракратычнага шалупіння, русізмаў і слэнгавых «вынаходстваў» мову ў сродках масавай інфармацыі. **Пакуль жа хіба толькі восьмая частка штодзённага вяшчання на тэлебачанні — беларускамоўная.**

# ПАКУТЛІВАЕ І РАДАСНАЕ ВЯРТАННЕ

Музычная культура любой нацыі грунтуецца на нацыянальнай традыцыі. Добра, калі гэтая традыцыя ніколі не перарывалася і з'яўляецца трывалым падмуркам духоўнага развіцця народа. У Беларусі многія старонкі музычнай традыцыі па розных прычынах былі згубленыя ды расцярушаныя па свеце, таму найперш важна аднавіць нацыянальныя мастацкія традыцыі, у тым ліку і ў музычнай сферы.

І такая праца ў нашай краіне вядзецца высілкамі многіх беларускіх даследчыкаў, такіх як А.Мальдзіс, В.Дадзіёмава, В.Скорабагатаў, В.Жывалеўскі. Беларуская нацыянальная музычная спадчына адраджаецца прафесійнымі і самадзейнымі артыстамі, гучыць у лепшых музычных тэатрах і залах, касцёлах і цэрквах...

Свой пасільны ўнёсак у ганаровую справу вяртання нашай музычнай спадчыны спрабуюць рабіць незалежныя грамадскія структуры. Адна з іх — выдавецкая суполка BMAgroup, якая прапанавала беларускім слухачам унікальную серыю кампакт-дыскаў «Беларускі музычны архіў» з запісамі сусветнавядомага опернага спевака беларускага паходжання Міхася Забэйды-Суміцкага і кампазітара-эмігранта, аўтара духоўнага гімна-малітвы «Магутны Божа» Міколы Равенскага.

Першая з названых навінак з'яўляецца своеасаблівай музычнай энцыклапедыяй, прысвечанай 100-гадоваму юбілею Міхася Забэйды-Суміцкага, хоць спозненым, але добрым помнікам нашаму знакамітаму зямляку, данінай таленту «беларускага салаўя». Знаёмства з гэтай фонаграфічнай навінкай распачынаецца з грунтоўнага буклета, у якім музычны крытык В. Мартыненка знаёміць суайчыннікаў з біяграфіяй песняра. Прыхільнікі творчасці М. Забэйды-Суміцкага могуць паразважаць пра драматычную прадвызначанасць лёсу беларускага генія.

Не менш драматычным было і змаганне за добрае імя спевака на яго радзіме. Для аднаўлення гістарычнай справядлівасці шмат зрабілі Максім Танк і Рыгор Шырма, які ў трагічным 1937 годзе адзначаў у заходнебеларускім друку: «Толькі такі мастак-артыст, як Забэйда-Суміцкі патрапіў вывесці беларускую народную песню ў шырокі культурны сусвет».

Аматарам музыкі будуць цікавыя і выбраная дыскаграфія, і спіс літаратуры пра творчасць вялікага беларускага тэнара. І ўсё ж асноўныя ўражанні ад дыска «Ластаўкі ў стрэсе» — музычныя, звязаныя з непаўторным голасам М. Забэйды-Суміцкага. У яго выкананні тут гучыць каля дзесятка твораў беларускіх кампазітараў, у тым ліку К. Галкоўскага, П. Падкавырава, М. Аладава, М. Чуркіна, Р. Пукста, а таксама каля дваццаці трэкаў з унікальнымі апрацоўкамі беларускага фальклору, якія спявак выконваў з асаблівым натхненнем і прачуласцю.

Наперадзе выданне найважнейшай часткі спадчыны М. Забэйды-Суміцкага — оперных партый, што гучалі ў сусветных оперных цэнтрах і былі зафіксаваныя нямецкімі, італьянскімі, польскімі і чэшскімі фірмамі гуказапісу ды захаваныя для нашчадкаў беларускай эміграцыяй.

У тым жа энцыклапедычным рэчышчы вытрыманы і іншы рэліз Беларускай музычнай альтэрнатывы (BMAgroup) — кампакт-дыск «Магутны Божа» з музыкай Міколы Равенскага. Выданне і прэм'ера кружэлкі стала асноўнай падзеяй у святкаванні 115-гадовага юбілею беларускага кампазітара, які частку свайго эмігранцкага жыцця пражыў у бельгійскім горадзе Лювэне.

Як адзначыў на прэзентацыі навінкі заслужаны артыст Беларусі Віктар Скорабагатаў (у яго выкананні на дыску гучыць песня М. Равенскага «Менск»), на гэтай кружэлцы пададзены аж тры версіі духоўнага гімна беларусаў «Магутны Божа» (на верш Н. Арсенневай) — у выкананні хору і аркестра Гарадзенскай капэлы, хору «Унія», Казачага хору пад кіраўніцтвам П. Жарава (ЗША) і спевака беларускага паходжання Пётры Конюха.

В. Скорабагатаў адзначыў, што гэты твор даў назву знакамітаму фэсту духоўнай музыкі, што праводзіцца ў Магілеве. Падчас яго канцэртных праграм калектывы і выканаўцы з розных краінаў і розных хрысціянскіх канфесіяў выконваюць гімн «Магутны Божа». Колькасць яго незвычайных апрацовак і версій дасягнула такой лічбы, што іх можна выдаваць асобным фонаграфічным дыскам. «У аб'яднанні людзей усяго свету, — адзначыў В. Скорабагатаў, — я бачу экуменічную функцыю гэтага неўміручага твора М. Равенскага».

Як і належыць выданню з серыі «Беларускі музычны архіў», кампакт-дыск насычаны запісамі твораў кампазітара на вершы яго любімых паэтаў Я. Коласа («Мой родны кут», «Вясна»), М. Багдановіча («Пагоня», «Слуцкія ткачыхі», «Лявоніха»). Сёння існуе шмат версіяў музычных твораў на гэтыя словы аўтарства сучасных беларускіх кампазітараў. І таму вельмі цікава, параўноўваючы іх структуру, паразважаць наконт узаемных уплываў музыкі і паэзіі ў розных гістарычных варунках.

Драматычная арыя Браніславы з аднайменнай оперы на вершы У. Дубоўкі (выконвае дачка кампазітара В. Аляксеенка-Равенская), вялікая сюіта для фартэпіяна (выканаўца — І. Алоўнікаў) распавядуць слухачам дыска пра імкненне М. Равенскага рэалізаваць свой талент у розных музычных жанрах, пра яго творчы універсалізм.

Адной з яскравых праяваў нацыянальнага ў музыцы М. Равенскага з'яўляецца яго любоў да беларускага меласу і народнай песні, таму на дыску «Магутны Божа» асноўны музычны блок — апрацоўкі беларускага фальклору ў выкананні Беларускага хору студэнтаў Лювэнскага універсітэта пад кіраўніцтвам М. Равенскага.

І хоць якасць запісаў некаторых твораў на дыску можна аднесці да архіўных, да іх хочацца вяртацца яшчэ і яшчэ, каб зноў прыпасці да гаючых крыніц меласу.

Серыя «Беларускі музычны архіў», як сцвярджаюць выдаўцы з BMAgroup, не будзе абмяжоўвацца жанравастылістычнымі рамкамі сваіх фонаграфічных выданняў. І таму ўжо сёння выдадзены архіўны дыск знанага наваполацкага барда Сержука Сокалава-Воюша «Нефармальны беларус», на якім гучаць такія любімыя слухачамі песні барда, як «Аксамітны вечар», «Крупнік», «Грунвальд», «Нефармальны беларус», бардаўскі цыкл «Песні касінераў»...

Так разнастайная музычная традыцыя — творчае апірышча сённяшніх музыкантаў і кампазітараў, выканаўцаў і аранжыроўшчыкаў — вяртаецца ў наш штодзённы музычны побыт праз лічбавыя дыскі серыі «Беларускі музычны архіў».

*Анатоль Мяльгуй*

==================================

# У. ЖЫРЫНОЎСКІ: САЮЗНАЯ ДЗЯРЖАВА - ВЕЛЬМІ ШТУЧНАЯ КАНСТРУКЦЫЯ

"Вельмі штучнай канструкцыяй" назваў Саюзную дзяржву Беларусі і Расіі віцэ-спікер расійскай Дзяржаўнай думы, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі Уладзімір Жырыноўскі 14 чэрвеня ў інтэрв'ю радыёстанцыі "Эхо Москвы".

"Гэта рабілася пад Ельцына, паколькі меркавалася, што ён не зможа выйграць выбары ўнутры краіны, і там, на якім-небудзь канстытуцыйным органе ў выглядзе парламента, абраць Ельцына ўжо кіраўніком гэтай дзяржавы, Расія -- Беларус. Цяпер Пуціну гэтага не трэба, бо ў яго няма пагрозы прайграць бліжэйшыя выбары. А стварэнне вось гэтай штучнай канструкцыі -- гэта запаволенае прынясце палітычнага рашэння. Нам гэта не патрэбна. Я лічу, што Пуціна не задавальняе менавіта тая формула, канцэпцыя, якая праводзілася гэтыя 10 гадоў, -- г.зн. спроба аднаўлення ў ружовым варыянце СССР, калі будуць зноў агульнасаюзныя органы -- міністэрствы, парламент, і Расія зноў будзе як бы другарадная тут. І гэта зноў будзе вельмі крохка. Ужо ёсць гэтае аб'яднанне -- Расійская Федэрацыя -- па-руску гэта і ёсць расійскі саюз. Няхай у яго ўваходзяць паўнапраўнымі членамі ў выглядзе губерняў. Трэба перайсці да тэрытарыяльнага прынцыпу дзялення -- 30 губерняў па 5 мільёнаў. Мінская і Магілёўская -- дзве губерні па 5 мільёнаў", -- сказаў У. Жырыноўскі.

На думку віцэ-спікера Дзярждумы, Аляксандр Лукашэнка пагодзіцца з тым, што Беларусь спыніць сваё існаванне як самастойная дзяржава: "Праз некаторы час ён пагодзіцца, бо гэта будзе нармальная тэндэнцыя, нармальная будзе, нарэшце, дзяржава. Ну нельга зноў рабіць "Трышкін кафтан" -- панапіхваем зноў у межы нейкага канстытуцыйнага акта Беларусь, Украіну, Узбекістан, ГУАМ, МУАМ, Мытны саюз... -- цяпер жа не разабрацца, колькі ў нас ужо структур СНД. Вы разумееце, што яны не могуць прыняць патрэбнага рашэння. Патрэбна нармальная дзяржава, адзіная праравая прастора. Давайце возьмем расійскую мадэль, нашу рыначную эканоміку, нашу дэмакратыю, і яны да нас прыходзяць у выглядзе губерняў: дзве беларускія губерні, пяць украінскіх, тры казахстанскія, і так пайшлі паціхеньку ў склад Расійскай Федэрацыі. І яны ўплываюць на выбары прэзідэнта, беларускія парламентары будуць сядзець у Савеце Федэрацыі і прадстаўляць Беларусь -- калі ласка, нічога нацыянальнага не ліквідуецца. У беларускіх выбаршчыкаў будуць паўнапраўныя прадстаўнікі".

У. Жырыноўскі перакананы, што Беларусь "вельмі хоча быць у Расіі". "Гэта Лукашэнка, можа быць, проста сёння не да канца гаворыць, але ён згодны будзе, я вас запэўніваю, на формулу проста ўваходжання Мінскай і Магілёўскай губерні ў склад Расійскай Федэрацыі, а яму даць пасаду першага віцэ-прэм'ера расійскага ўрада -- вось замест Мацвіенкі. І ўсё будзе нармальна", -- мяркуе У. Жырыноўскі.

Дзмітры УЛАСАЎ, БелаПАН.

Даёш імперыю і канец спэктаклю!..

# Два волаты зямлі беларускай

## Роздум у сувязі са 120-годзьдзем Янкі Купалы і 115-годзьдзем Марка Шагала

Ліпень – месяц нараджэньня двух найвыдатнейшых сыноў беларускай зямлі, духоўнае узьдзеяньне якіх адчуваеш увесь час, як стаў сьведама і самастойна дыхаць, думаць, адчуваць, разважаць. Янка Купала і Марк Шагал… Так сталася, што нарадзіліся яны ў адзін дзень, толькі першы – на пяць гадоў раней другога. Сёлета якраз Янку Купалу – 120 гадоў, Марку Шагалу – 115. Аднадасовае сьвяткаваньне гэтых юбілеяў у гэты ня вельмі спрыяльны для Бацькаўшчыны і нацыянальнай духоўнасьці час набывае, як мне здаецца, асаблівы сэнс, асаблівае значэньне.

Мне здаецца, што мы яшчэ вельмі асьцярожна, нясьмела і вельмі-вельмі мала гаворым на нашых сустрэчах і ў нашых мас- мэдыях пра сутнасьць нашай Беларусі і яе шматвекавой гісторыі, пра наш беларускі народ і ўсе асаблівасьці яго духоўнасьці. Пра яго мейсца сярод іншых народаў сьвету, пра зьзяньне менавіта нашай кветкі на сусьветным народавым лузе. Пра тыя эстэтычна высокія ўзоры мастацтва й літаратуры, створаныя на гэтай зямлі, якія ёсьць упрыгожаньнем скарбонкі сусьветных дасягненьняў. Успомнім сьцвярджэньне-запавет Максіма Багдановіча, які гаварыў пра першыя посьпехі маладой беларускай літаратуры і культуры: “Ня толькі свайму народу… але і ўсясьветнай культуры нясем свой дар”. Увесь сэнс тут не ў колькасных паказчыках, а ў якасных. Янка Купала і Марк Шагал, кожны па-свойму, служылі ня толькі свайму народу. Яны ўзьняліся да эстэтычных вышыняў усяго чалавецтва, іх творамі ганарыцца ўвесь сьвет.

Безумоўна, Янка Купала – сьвяшчэннае для кожнага беларуса імя, аснова нашай нацыянальнай духоўнасьці і нашай нацыянальнай самасьвядомасьці. У ягонай лірыцы – уся душа беларускага народа, уся яго ідэнтычнасьць і мэнтальнасьць. Але і ў кантэксьце дасягненьняў сусьветнай паэзіі лірыка Купалы – асобная адметная старонка, адметная высокай паэтычнай эстэтыкай, арыгінальнай вобразнасьцю, бліскучымі знаходкамі формы і структуры верша, гэткім жа ўзроўнем рытмічнага і меладычнага багацьця, як, скажам, у творчасьці Шэкспіра, Гётэ, Байрана, Пушкіна, Міцкевіча.

Янка Купала – ня толькі слынны паэт, але і найвыдатнейшы драматург. Увогуле гэта найскладанейшы жанр – драматургія, яе ўзровень вызначае сапраўдную сталасьць той ці іншай літаратуры, яе значнасьць і сур’ёзнасьць. Купалаўская “Паўлінка”, што вось ужо шмат дзесяцігодьдзяў не сыходзіць са сцэны Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы, – клясічны ўзор натуральнай народнай камедыі, дзеяньне ў якой распачынаецца ад яскравых каларытных характараў персанажаў, а не з якой-небудзь сацыялягічнай або цесна звязанай з якімі іншымі жыцьцёвымі падзеямі прычынай. А такіх твораў вельмі мала ў сусьветнай драматургіі. З яшчэ аднаго твору беларуса Янкі Купалы, з “Тутэйшых” трэба пачынаць гаворку пра тую плынь у сусьветнай літаратуры і драматургіі, якую потым назавуць “стылістыкай абсурду і гратэску” і якая ўжо крыху пазьней дасьць у іншых нацыянальных літаратурах Іянеску і Бекета, Брэхта і Куліша, Эрдмана і Платонава… Спалучэньне ў творчасьці Купалы паэзіі і драматургіі з пункту гледжаньня пачатку эўрапейскага літаратурнага сімвалізму – гэтая тэма яшчэ чакае сваіх дапытлівых дасьледчыкаў.

Многае з Янкі Купалы яшчэ не прачытана як сьлед, многае дагэтуль трактуецца ў сьвятле дагматычнага літаратуразнаўства савецкіх часоў. Возьмем, напрыклад, ягоны славуты верш 1924 году “…О так! Я – пралетар!…”, які падаецца ва ўсіх дасьледваньнях і падручніках як паэтава прызнаньне новай ідэялёгіі і новага ладу на Беларусі (“сягоньня я зямлі ўладар і над царамі цар магутны”). Але я перакананы ў тым, што сэнс гэтага твору зусім процілеглы. На купалаўскім рукапісным адменьніку няма знакаў прыпынку; думаецца, што гэта не выпадкова. Давайце ж прачытаем верш з тымі інтанацыямі, з якімі, як мне здаецца, яго напісаў паэт. Пачынаецца твор пытаньнем: “О так? Я – пралетар? Яшчэ учора раб пакутны, сягоньня я зямлі ўладар і над царамі цар магутны?” Усё гэта – пытаньні, нялёгкія выпакутаваныя пытаньні; пытаньне гучыць і далей: “Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет? Ад родных ніў я адвярнуўся?” Але ж быць такога ня можа, нарастаньне пытаньняў пераходзіць ў крык-адказ: “Не збыў яшчэ ўсіх бед: мне сьняцца сны аб Беларусі”. Так была ў вершы-васьмірадкоўі, роўным нямногім лепшым узорам сусьветнай лірыкі, выказана аснова нашай нацыянальнай ідэі, словы, якія многія з нас паўтаралі неадназаразова сваім сэрцам і душою: “Мне сьняцца сны аб Беларусі”.


“Над горадам”, 1915 г.

I яшчэ адна юбілейная дата ўзвышае душу ў гэты славуты дзень 7 ліпеня – 115-годдзе з дня нараджэньня Марка Шагала, найвыдатнейшага мастака XX веку. I дагэтуль у сьвеце паўсюль (за асобнымі выключэньнямі) яго называюць “расейцам”, “мастаком з Расіі”. А мы, нават цяпер, калі пра яго гаварыць і пісаць на бацькаўшчыне дазволена, вельмі мала і нясьмела пішам і даводзім пря ягоныя ня толькі беларускія вытокі і асновы, але і пра ўсю пераважна беларускую па сваёй ідэнтычнасьці сістэму яго вобразнага і каларыстычнага мысьленьня.


“Прагулка”, 1917 г.

Яўрэйскае, на першы погляд, выхаваньне Шагала – гэта тыповае яўрэйскае выхаваньне менавіта ў беларускім асяродку, на беларускай зямлі. Беларусь дала сьвету гэтага мастака, заклала асновы ягонага таленту, натхніла яго. Ён нарадзіўся і вырас у Віцебску, беларуска-яўрэйскім горадзе. На ягонае станаўленьне ўплываў духоўны этнас і яўрэяў, і беларусаў, часта ў іх дзівосна-чароўным спалучэньні. Той этнас, што існаваў тут жа, побач, у Віцебску і навакольных мястэчках, асабліва ўсё тое, што было звязана з дахрысьціянскімі, паганскімі вобразамі, сымбалямі, абраднасьцю. Да гэтага варта дадаць традыцыі ўнікальнай беларускай школы іканапісу менавіта тых мясьцінаў на мяжы праваслаўя, уніяцтва і каталіцтва, традыцыі, якія прадугледжвалі адносную свабоду кампазыцыйную і каларыстычную, адыход ад кананічных сюжэтаў, наданьне жывых рысаў міфалагічным персанажам.

“Віцебск – гэта месца асаблівае, – напіша Марк Шагал у сваёй аўтабіяграфічнай кнізе “Маё жыцьцё”. – Тут і шукайце мяне, вось я, мае карціны, мае вытокі”. I потым, у часы Другой сусьветнай вайны, мастак у сваім славутым звароце “Майму роднаму Віцебску” прызнаецца: “Як падарожнік самотны, я толькі нёс праз гады ўсе твой вобраз на палотнах маіх, і гэтак мовіў з табой, і, як у люстэрку, бачыў цябе… Я не жыў з табою, але не было ніводнай маёй карціны, у якой бы не адбілася твая радасьць, твой смутак. Праз усе гады маёй трывогай было адно: ці мяне зразумееш ты, мой горад, ці мяне зразумеюць твае грамадзяне?”

Давайце прыгадаем выявы карцінаў мастака, іх вобразную сымболіку. Яны ж сапраўдныя *летуценьнікі* (наша слова!) – гэтыя шагалаўскія персанажы, якія лётаюць над зямлёй. А пад імі і навокал – дзівосны сон, пастаянны матыў вяртаньня да родных мясьцін. Абрысы роднага Віцебска чытаюцца нават у самым апошнім шэдэўры Марка Шагала – у габелене “Йоў”, створаным у апошні год жыцця мастака (экспануецца ў вестыбюлі Чыкагскага рэабілітацыйнага інстытуту). I ў кожнай карціне – адвечны матыў трывогі за родныя мясьціны, за родны дом, за сябе і сваю сям’ю… Я ўзіраюся ў палотны Марка Шагала, а на памяць прыходзяць знаёмыя паэтычныя радкі: “Божа! Гэткі сьвет тут моц стварыла твая! Дзе ж мой дом? Дзе ж мой кут? Дзе айчызна мая?”

Янка Купала і Марк Шагал… Мяне могуць папракнуць: ці не занадта рызыкоўнае супастаўленьне? Але прынамсі ў маім жыцьці і маёй сьвядомасьці гэтыя сыны зямлі беларускай ішлі ўвесь час побач, разам, бо іх абодвух у адзін і той жа час на адной і той жа зямлі хвалявала і непакоіла нешта вельмі блізкае. Таму і такая блізкая ў іх прырода вобразнай мастацкай сымболікі.


“Вясковае жыцьцё”, 1925 г.

На працытаванае вышэй вершаванае пытаньне вялікі пясьняр зямлі беларускай паспрабаваў даць адказ: “Мой дом – прывольле зьвёзднай далі, арламі мераны абшар…”А ці не да такога ж прытулку пад зьвёздамі імкнецца ў сваіх карцінах Марк Шагал, добра разумеючы, што няма шчасьця тут, на зямлі гэтым простым людзям – аратым, шаўцам, рамізьнікам, скрыпачам ды проста звычайным закаханым… “А мы, як цені з таго сьвету, ідзём, ня знаючы куды…” Непасрэдна ў Віцебску піша Шагал сваю славутую серыю блакітных, ружовых, зялёных “Палюбоўнікаў”, гледзячы на якія нельга стрымаць хваляваньне і прыгадаць: “Пані ты была, я – пан… Посьле зноў расьцвіў курган…” Гэтак жа і па сэнсу і па інтанацыі, як і персанажы мастака, лірычны герой паэзіі Янкі Купалы зазыўна, з вялікай сілай перакананьня, заклікае:

К зорам агністым, к прывольлю нябеснаму,
Вырваўшы з ціны жыцьцёвай душу,
Мчыся, ня дайся цярпенью балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу!

К зорам, што так над табой разгараюцца
Льсніста ў мільённай на небе сяўбе,
Рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца:
Там херувімы спаткаюць цябе!

На многіх палотнах Марка Шагала дарога ў неба пракладзена праз Віцебск і Лёзна. А Янка Купала так выказвае сваё запаветнае жаданьне: “Млечны Шлях, што нябесны дзядзінец засьцілае, я б зьняў на зямлю і масьціў быім новы гасьцінец цераз

родную ніву сваю…" Незвычайнае супадзеньне ў паэта і мастака сымбаляў "агністага сонца", якое хочацца ўзяць у рукі, што, па-сутнасьці, дадзена было толькі ім абодвум.

А над усім гэтым, як абагульненьне, – матыў адвечнага трагізму чалавечага існаваньня на зямлі: нараджэньне, жыцьцё, старасьць, смерць… Марк Шагал быў ня толькі слынны мастак, але і неблагі паэт. "Браты замоўклыя, бегчы ня ўзбоч, а ўпоплеч да зор я хачу якраз, і сьветлай стане цёмная ноч, і ўсе народы пачуюць нас…" (пераклад Рыгора Барадуліна). Ці ня праўда: вобразная структура гэтых шагалаўскіх паэтычных радкоў перагукаецца са згаданымі вышэй купалаўскімі?

Янка Купала ня вытрымаў цяжару і жорсткасьці камуністычнага таталітарнага рэжыму і вырашыў сам пайсьці з гэтага жыцьця. Я перакананы ў гэтым, таму што ў свой час спецыяльна ездзіў у Пячышчы, што ў Татарыі, каб паглядзець на так званую купалаўскую апошнюю кватэру. Выгнаны навалай вайны з радзімы, вялікі пясьняр воляю ўладаў вымушаны быў жыць там у страшэнных, амаль гулагаўскіх умовах. Аніякай сувязі з тымі ж эвакуіраванымі ў так званы "тыл" калегамі, суцэльная ізаляванасьць і жудасны сум… І калі, праз пару тыдняў у Маскве, куды Янку Купалу выклікалі на антыфашысцкі радыёмітынг, трэба было вяртацца туды, у нямыя і глухія Пячышчы, перапоўненае трагічнае сьветаадчуваньне песьняра не вытрымала.

Прадбачучы і прадчуваючы жахлівы зыход многіх народаў, Марк Шагал папярэдзіў чалавецтва пра магчымы Халакост (аб гэтым сьведчаць карціна "Белае расьпяцьце", напісаная ў 1938 годзе, што зараз знаходзіцца ў Чыкагскім Арт-Інстытуце, ды многія іншыя яго творы). Калі над сьветам навісну́ў фашызм, Шагала ўратавала Амэрыка. Тут ён знайшоў прытулак і сяброў…

Такія вось, магчыма, у нечым і суб'ектыўныя думкі прыходзяць ў гэты гарачы юбілейны ліпень удалечыні ад радзімы. Але ж не забываюцца і славутыя купалаўскія радкі: "І няма на сьвеце так вялікай меры, і няма на сьвеце так каваных дзвераў, каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі Беларусь са мною разлучыць пасьмелі!" Вядома, гэта сказана хутчэй як пажаданьне, як мара. Зрэшты, яе зьдзяйсьненьне залежыць ад цябе самога.

**Ванкарэм Нікіфаровіч,** Чыкага, ЗША.

# Краявіды Марка Шагала

10 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску адкрылася выстава "Краявіды Марка Шагала", прысвечаная яго 115-годдзю.

У экспазіцыі прадстаўлены 13 жывапісных і 21 графічны (акварэль, гуаш) твор славутага мастака, прысвечаных Віцебску, Парыжу, паўднёвай Францыі, Грэцыі і Іерусаліму. Усе творы -- з прыватных калекцый унучак мастака -- Бэлы Меер і Мерэт Меер-Грабер.

Напярэдадні адкрыцця экспазіцыі, 8 ліпеня ў 17 гадзін, у Нацыянальным мастацкім музеі адбылася лекцыя Анеты Вебер (Яўрэйскі музей, Франкфурт-на-Майне, Германія) "Узаемадзеянне Шагала з рознымі мастацкімі плынямі Парыжа (1910--1914 гады) і Берліна (1922--1923 гады)".

Праца выставы, арганізаванай пры садзейнічанні Пасольства Францыі ў Беларусі, прадоўжыцца да 2 верасня. Затым экспазіцыя пераедзе на радзіму мастака ў Віцебск, дзе будзе дэманстравацца ў Музеі Марка Шагала з 10 верасня да 10 кастрычніка.

*************************************************

<u>*У Купалавым доме*</u>

# З кутка паэтавых жаданняў...

**Некалі, на самым пачатку XIX стагоддзя, ён скрушна, але ж, мусіць, не без спадзеўнай думкі-мроі выведзе радкі, прарочыя не для сябе, для нас:**

*Кожны край мае тых, што апяваюць,*
*Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,*
*А беларусы нікога не маюць,*
*Няхай жа хоць будзе Янка Купала.*

Яшчэ праз сем гадоў (у 1912) -- зусім іншы настрой, жаданне "з цэлым народам гутарку весці":

*Сэрца мільёнаў падслухаць біцця --*
*Гэткай шукаю цэлы век чэсці,*
*Гэта адно мне падпорай жыцця.*
*Песню стварыці ясну, як неба,*
*У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём --*
*Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,*
*Гэткім я толькі жыву пачуццём.*

Ён, вялікі творца і прарок, аднак, ці мог спадзявацца ў ліхую перадсмяротную часіну, душачыся пякучаю слязою адчаю, несправядлівасці, надрыўнага душэўнага злому, што настане пара -- і ў ягоным доме, знішчаным вайною, зноўку штовечар будзе запальвацца святло, каб прывеціць тут Дух нацыі, яе Веру, яе паэзію і музыку?.. Ці мог ён, роспачна стоячы перад прошчаю лесвічнага пралёта, уявіць хоць на імгненне, што адродзіцца жытло і што зноўку прыгорне да сябе "крывіцкую радзіну і гаманкую адраджэнскую сябрыну, адкрытую, сумленную, і схаваную, прынароўленую да ўладарнага дзяржаўнага бязладдзя"?.. Ці мог ён спадзявацца не на ліхое, закратаваны (як і Колас) у высочваннях, падазрэннях, допытах, закратаваны ў страху перад самім сабою, перад уласнаю душой, якая не магла прыстасавацца да разбурэння, да рассячэння матэрыі і духу?.. Не мог, але тым не менш сусвет пачуў "гэты крык, гэты енк, што жыве Беларусь". І, можа, таму Беларусь і ўзапраўду, праз усе ліхалецці, войны, варажнечу і прыгнечанне, жыве -- не згорбілася, не ўкленчыла перад хмарай адрачэнства і бязвер'я. Жыве насуперак усяму і намацвае шлях вяртання да сябе існае -- нескаронае зоркі-мроі беларускага адраджэнства. І, можа, таму ў ягоным доме, у гэтай сядзібе над сівою Свіслаччу, сёння так светла і прамянёна -- ад цёплага ўспаміну, ад чуйнага дыхання Купалавых думаў-трывог, што не змарнелі, не загаслі на Бацькаўшчыне, якая ўпарта па-ранейшаму чакае слова Прарока.

Ідучы на музычную вечарыну ў Купалаўскі дом-музей, прысвечаную 120-гадоваму юбілею Песняра (а такіх вечарын плануецца шмат), падумалася: як жа хораша і добра, што юбілейная купаліяна пачалася сёлета менавіта з Дома-музея народнага песняра. Бо што гэты Дом для нас сённяшніх? Не толькі Дом народнага паэта, грамадзяніна, чалавека... Не толькі прыстанак, што памятаў паэтавы крокі і які не пашкадавала вайна... Не толькі Храм-скарбніца, у які па Божай волі злятаюцца звесткі-згадкі пра Купалу ды яго паплечнікаў і куды вяртаецца бязлітасна-раскрыжаваная праўда Адраджэння... Ня толькі Дом-абярога Купалавых запісаў, ягоных рэчаў, што памятаюць дотык паэта і вылучаюць ягоную светлую энергію... Гэта яшчэ, як слушна кажа паэтка Антаніна Хатэнка, і Дом-спадзявальніца на здзяйсненне паэтавых прадчуванняў, што "праўда возьме верх нязводне: Такі ўжо сонца вечны ход"... Гэта і Дом-Бажніца, Дом-спавядальніца для тысяч патрыётаў зямлі нашай... Гэта майстроўня духовая мастакоў-дбайцаў Беларусі жыць, любіць, спасцігаць сэнс і высокую місію чалавека, асобы, творцы ў сусвеце... Гэта, урэшце, Дом-заклік, спрычынены абудзіць у нас пачуццё Радзімы, знайсці ў сабе той стрыжань, тую апору, якая непахісна стаяцьме на варце нашай самасці як нацыі...

З гэткімі думамі, можа, залішне ўзвышанымі (але ж куды падзенешся) ступалі мае ногі па сходках Купалавага дома, таго Дома, ад якога разнасцежыліся шляхі-пуцявіны па ўсім нашым краі, па лёсах людзей, па будучыні, дзеля якой паэт маліўся "небу, зямлі і прастору за родны загон Беларусі", маліўся пакутна, расплатна, узвышана. А вось і знаёмая, невялікая, але такая ўтульная і прасветленая зала, дзе па даўняй завядзёнцы збіраюцца грамадою наступнікі Паэта на даверчыя вечарыны. Адсюль бяруць пачатак паўнаводныя рэкі паэтычных святаў, адсюль і ў 120-годдзе паэта Купаліяна разліецца па абсягах крывіцкай зямлі, па колішніх Купалавых сялібах -- дзіцячай Вязынцы, мыслярскіх Акопах, одумных Ляўках, пасля па школах, гімназіях, універсітэтах... Тут неаднойчы запаляцца свечкі па замучаных, катаваных паплечніках Паэта нумар адзін -- Уладзіміру Дубоўку, Ларысе Геніюш, Уладзіміру Жылку, прамяністай плеядзе "Маладняка" і "Узвышша". Тут яшчэ не раз збяруцца цяперашнія сейбіты беларускага духу -- Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Генадзь Бураўкін...

А пакуль у гасцёўні Купалавага дома гучыць музыка -- уладарка не дум, але пачуццяў. Яна будзе гучаць тут і ў сакавіку, і ў красавіку, і ў маі, і ў чэрвені, і ў ліпені. Так задумалі цяперашнія захавальнікі Купалавага дома і Міхаіл Якаўлевіч Фінберг, падзвіжнік і распаўсюджвальнік нашых нацыянальных музычных скарбаў. Спецыяльна да Купалавага юбілею маэстра разам са сваім аркестрам падрыхтаваў новую вялікую праграму. Ансамбль салістаў на драўляных інструментах Дзяржаўнага сімфанічнага і эстраднага аркестра -- першая ластаўка, якая адкрыла музычныя сустрэчы ў Купалавым доме. Зала не ўмясціла ўсіх жадаючых паслухаць маладых, але ўжо знакамітых (большасць з васьмярых музыкантаў -- лаўрэаты розных міжнародных конкурсаў) выканаўцаў. Гучала як малавядомая музыка (з Полацкага сшытка -- 17 ст.), так і добра знаёмая, папулярная -- вальс Глінкі з оперы "Іван Сусанін", пяць контрдансаў Васіля Казлоўскага, п'есы Мікалая Чуркіна, канцэрт для двух габояў Вівальдзі, Неапалітанская тарантэла, "лявоніха" Юзэфа Шадурскага з оперы "Тарас на Парнасе" ды іншыя. Неўзабаве тут жа, у Купалаўскай гасцёўні, эстафету габаістаў ды кларнетыстаў падхопяць ансамбль трубачоў "Інтрада", затым калектыў флейтыстаў "Сірынкс". А ўслед ім ужо рыхтуецца 12 перасоўных выстаў, з якімі знаёмыя не толькі суайчыннікі, але і шмат якія памежныя народы. Увогуле пад ахоўным дахам Купалавай сялібы сабрана каля 800 твораў выяўленчага мастацтва, што "запомнілі" паэта яшчэ жывым, альбо напісаныя на сюжэты Купалавых твораў ці прысвечаны самому творцу. І ўсё гэта багацце духоўнае ў год Песняра будзе пададзена на шырокі агляд. Не дзіва, бо шматаблічная галерэя жывапісных, графічных, скульптурных прац як бы ўзнаўляе, па-філасофску асэнсоўвае шлях Прарока, адоранага шчасцем прадбачання, а таму асэнсаванне намі ягонага бачання і разумення свету -- актуальная патрэба. Гэтая вечная непазнанасць Купалы вабіць да сябе, магнетызуе не толькі мастакоў, але і кампазітараў, спевакоў, рэжысёраў, акцёраў, не кажучы ўжо пра пісьменнікаў, філосафаў і нават палітыкаў.

Касмічная прастора Купалавай паэзіі яшчэ не асвоена ўсім нашым паспалітым людам, але мы на правільным шляху. У тым мне давялося пераканацца яшчэ раз, згледзіўшы мноства маладых твараў, вачэй, якія слухалі цудоўную музыку невядомага аўтара, занатаваную невядомым рупліўцам-палачанінам у 17 ст. Купала быццам злучыў, паяднаў часы, людскія лёсы, гістарычныя эпохі. Ён прарочыў і зваў ісці з цемры да святла. І голас яго не патануў у віхуры бурлівага часу, а пачуты і ўспрыняты вострым слыхам маладога племя, для якога ўсё толькі пачынаецца...

**Г. ЧЫГІР (Нар. Газ.)**

========================================

# Дыпламаты дэкламавалі Купалу

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.** (3-да)

Незвычайная літаратурна-дыпламатычная акцыя адбылася днямі ў Беларускім таварыстве дружбы. На вечары, прысвечаным 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, у ролі дэкламатараў яго вершаў выступілі дыпламаты высокага рангу, акрэдытаваныя ў Мінску.

Пасол Украіны Анатоль Дронь чытаў купалаўскія творы на сваёй роднай мове. Ён зазначыў, што цудоўная паэзія Я. Купалы зразумелая кожнаму ўкраінцу.

Я. Купала свабодна размаўляў на польскай мове. Дарэчы, паводле слоў вядучага вечара Леаніда Дранько-Майсюка, свае першыя вершы Я. Купала напісаў менавіта на польскай мове. Аднак, бадай, самы вядомы купалаўскі верш «А хто там ідзе?» дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Цэзарый Карпінськi прачытаў у перакладзе на польскую мову.

Сваім выбарам ён паставіў шэраг дэкламатараў у, так бы мовіць, далікатнае становішча. Бо наступныя дыпламаты, якія захацелі прачытаць Купалу на сваёй мове, таксама выбралі гэты папулярны верш. Ён прагучаў у выкананні саветніка пасольства Чэхіі Уладзіміра Лукашціка, Часовага Паверанага ў справах Францыі ў Беларусі Аляксея Шахтахцінскага.

А вось пасол КНР Юй Чжэнь Ці выбраў верш «Жняя» і прачытаў яго на кітайскай мове. Увогуле, на думку Уладзіміра Шчаснага, старшыні Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКО, няма нічога дзіўнага ў тым, што дыпламаты чытаюць вершы. Бо паміж дыпламатыяй і паэзіяй шмат агульнага. Так, слова паэзіі ўтойвае шмат таямніц. І слова дыплamata — таксама.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...**
**Прыяднуоўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

====================

# Рэлігійная тэма...

Як ужо паведамлялася, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь разгледзела ў першым чытанні праект Закона аб свабодзе веравызнанняў. Па інфармацыі, паступаючай з прадстаўнічага органа, дыскусія, якую разгарнулі дэпутаты, схілялася да таго, што ў Беларусі дамініруючай канфесіяй павінна быць праваслаў'е.

Ці правамоцна такая пастаноўка пытання? Аб гэтым разважае ў сваім артыкуле дэпутат Палаты прадстаўнікоў Іван ПАШКЕВІЧ.

Ці разумее беларускі парламент, куды вядзе яго дарога рэгламентацыі "традыцыйных" і "нетрадыцыйных" канфесій?

Праект Закона аб свабодзе веравызнанняў, які толькі што прыняты парламентам у першым чытанні, успрыняты як большасцю рэлігійных канфесій, так і палітычнымі коламі Беларусі вельмі крытычна. Дэпутаты, штучна падымаючы праваслаўную царкву, заганяюць, па сутнасці, у рэзервацыю іудзеяў, каталікоў, пратэстантаў. Як неабгрунтаваныя ўспрымаюцца прапановы А.Ваганава, С.Гаварушкіна прапісаць у законе прызнанне "определяющей роли Православной церкви в историческом становлении и развитии духовных, культурных и государственных традиций белорусского народа". І не таму, што гэта асабістае меркаванне названых дэпутатаў, а таму, што закон не абмяркоўваўся самімі рэлігійнымі канфесіямі, вучонымі, Нацыянальнай акадэміяй навук і яе інстытутамі, творчай інтэлігенцыяй. Больш за тое, артыкул 8 закона прадугледжвае права дзяржавы будаваць свае ўзаемаадносіны з рэлігійнымі аб'яднаннямі шляхам заключэння з імі пісьмовых дамоўленасцяў. З якімі канфесіямі будзе заключаць дзяржава гэтыя дамоўленасці, бачна з прапановы дэпутатаў. Дык роля якой канфесіі з'яўляецца "определяющей", хто з іх унёс найбольшы ўклад у развіццё "государственных традиций белорусского народа"?

У рабоце над дзяржаўнымі актамі экспертамі павінны выступаць гісторыкі, філолагі, мастацтвазнаўцы, а не рэлігійныя фанатыкі. У Беларусі дастаткова акадэмічных дзяржаўных выданняў, якія навукова тлумачаць гістарычныя факты, паняцці, каб захаваць заканадаўчую аб'ектыўнасць у падыходзе да з'яў і працэсаў духоўнасці народа.

Звернемся да тэрміна традыцыйнасці канфесій на Беларусі. Я буду абапірацца не на публіцыстыку, не на палітычныя спрэчкі, а на энцыклапедычныя звесткі, цытаваць не Пазьняка ці Касцяна з Катляровым, а БелСЭ часоў Кузьміна, Суслава -- цэнзараў гэтага 12-томнага выдання, якіх цяжка западозрыць у сімпатыях да ліберальных поглядаў і трактовак гістарычных падзей.

Па-першае, традыцыя -- гэта ад лат. traditio -- перадача, апавяданне -- звычай, парадак, правілы паводзінаў, што пераходзяць з пакалення ў пакаленне. З якога часу закладзены рэлігійныя традыцыі, якім дэпутаты даюць права працягвацца або заганяюць у падполле? Бо перарваць традыцыю можна, толькі знішчыўшы пакаленне яе носьбітаў.

На Беларусі ўпарадкаванне канфесійнай, кананічнай прасторы апошні раз у СССР рабілі берыеўскія чэкісты ў 1945 годзе. Яны з аўтаматамі зганялі вернікаў, адбіралі, дарылі храмы. Можа, каму хочацца ўзнавіць гэту традыцыю? Спаліць алтары і кнігі, як у Жыровічах? Расстраляць ксяндзоў і загнаць у Сібір "нетрадыцыйных" пратэстантаў?

Ці, можа, пачнем традыцыю адлічваць з VI стагоддзя, калі славянскія плямёны засялілі беларускія землі? Дык тады "спрадвечнай" будзе рэлігія Вішну, Брамы, Мітры і іншых багоў нашых пра-пра-продкаў. І дзяржаўную стыпендыю трэба аддаць вішнуітам або крышнаітам, як іх называюць, бо яны не "дэструктыўная секта", а носьбіты свяшчэнных Ведаў з дзесяцітысячнагадовай пісьмовай традыцыяй.

Дарэчы, пра "секты", як іх называюць. Абшчына хрысціян называлася сектай фарысеямі і кніжнікамі часоў Ірада Вялікага і Понція Пілата. Пратэстанты на Беларусі не ўзніклі з распадам СССР, а разгарнулі сваю дзейнасць яшчэ ў другой палове XVI стагоддзя. Першую кальвіністкую абшчыну заснаваў канцлер Вялікага княства Літоўскага Радзівіл Чорны. Па меркаванні даследчыкаў, наш нацыянальны геній Францыск Скарына па сутнасці сваёй дзейнасці быў рэфарматарам, а значыць, не мог не ставіцца спачувальна да пратэстанцкай рэлігійнасці.

Дык з якога часу датаваць "исконную традицию"? Можа, з 1917 года? Ці з 1922-га, з абвяшчэння СССР?

Нагадаю, што адвентысты (суботнікі ў іх ліку) з'явіліся на Беларусі ў 80-я гады XIX стагоддзя (БелСЭ, т.1, с.97).

Баптысты прыйшлі з Украіны пасля рэформы 1861 года. Першая абшчына баптыстаў узнікла на Гомельшчыне ў 70-х гадах XIX стагоддзя. У 60-я гады XX стагоддзя ў свеце налічвалася звыш за 250 мільёнаў баптыстаў. У 2002 годзе маскоўская праваслаўная царква ахоплівае каля 30 мільёнаў чалавек, для параўнання (дадзеныя з Велікодных святаў).

Не будзем падрабязна пералічваць структуры і гісторыю пратэстанцкіх абшчын на Беларусі, іх спецыфіку. Супаставім лёс трох галоўных хрысціянскіх плыняў: праваслаўя, каталікоў і пратэстантаў -- паводле дадзеных гістарычнай навукі БССР, дзе атрымалі адукацыю большасць з дэпутатаў. Не думаю, што Суслаў ці Паўлаў з ЦК КПБ былі менш заўзятымі камуністамі, чым Катляроў, Ліпкін, Малафееў і Касцян, -- і не меншымі аўтарытэтамі ў КПСС і СССР.

Дык вось, пратэстантызм узнік унутры хрысціянства ў перыяд Рэфармацыі, якая пакінула культурны след на Беларусі значны і прагрэсіўны з пункту гледжання навукі.

Лютэранства ўзнікла ў XVI стагоддзі. У XVI--XVII стагоддзях лютэранскія абшчыны і цэрквы існавалі ў Мінску, Слуцку і іншых беларускіх гарадах (БелСЭ, т.6, с.467).

Радзіма кальвінізму -- Жэнева (1536 г.). У 50-я гады XVI стагоддзя ўзнікаюць кальвіністкія абшчыны ў Вільні, Брэсце, Нясвіжы, Клецку. У XVI--XVII пры актыўным удзеле гараджан будуюцца кальвіністкія (пратэстанцкія) школы, цэрквы, друкарні, шпіталі -- у Віцебску, Мінску, Полацку, Оршы, Глыбокім, Заслаўі, Іўі, Любчы, Ляхавічах, Навагрудку, Смаргоні, Галоўчыне, Гарадзеі, Жупранах, Івянцы, Капылі, Койданаве, Слуцку, Шыдлове і г.д. У школах, дарэчы, вучылі беларускую мову нараўне з класічнымі і мовамі міжнацыянальных зносін, тэрмін навучання быў 6--10 гадоў.

Наконт "исконности" и "канонической территории" пратэстантызму ў сярэдневяковай Беларусі. У 1563 годзе пратэстанты ўраўноўваліся прывілеем караля ў правах з каталікамі, праваслаўнымі. Наконт талерантнасці. У 1599 годзе паміж кальвіністамі і праваслаўнымі заключана кандэсдэрацыя супраць наступлення контррэфармацыі. Калі каго зацікавяць памятнікі архітэктуры пратэстантаў на Беларусі, можна звярнуцца да храмаў у Койданаве (1-я палова XVI ст.), Смаргоні (1553 г.) ці Заслаўскай Спаса-Праабражэнскай царквы (БелСЭ, т.4; т.5, с.279--280).

Прыведзеныя вышэй звесткі ўзяты з сусветна вядомых крыніц па архітэктуры, мастацтвазнаўстве, літаратуры і гісторыі. Я пазбягаю тэалагічных ацэнак і фальсіфікацый царкоўных прадузятых гісторыкаў. Назаву некалькі тэзісаў, якія прымусяць чытача задумацца: хто правакуе канфесійную варожасць? Каму цесна на сваёй "кананічнай тэрыторыі"? Што выклікае міжнароднае абурэнне цемрашальствам -- дурасць, непісьменнасць ці свядомая варожасць да беларускай гісторыі і спекулянцкія інтарэсы хапуг пад царкоўным сцягам?

1.Хрысціянства на Беларусі з'явілася ў VIII стагоддзі. Праваслаўе наогул узнікла пасля 1054 года, пасля расколу.

2.Праваслаўныя ў 1833 годзе ў Магілёўскай губерні складалі каля 6 працэнтаў (шасці!). Асноўнае насельніцтва было грэкакаталіцкага (уніяцкага) веравызнання -- звыш за 70 працэнтаў, астатнія -- каталікамі. Маюцца на ўвазе суадносіны хрысціянскай канфесіі (без іудзеяў і іншых).

А лічбы, якія цытуюцца сёння, гэта рэвізія, праведзеныя царскімі ўладамі.

3.Да рэвалюцыі 1917 года, калі настаўнік 2 разы не наведваў царквы, яго выклікалі ў тагачасны КДБ (альбо тайную паліцыю) для пісьмовых тлумачэнняў.

Можа, і сёння ўзнавіць інструкцыю Свяшчэннага Сінода для жандараў? Інакш як аднавіць "кананічную тэрыторыю"?

4.Пасля заваявання Беларусі пры Кацярыне ІІ пачалася "традыцыя" захопу царкоўнай маёмасці са штыкамі і жандарамі. Зірніце на галоўны храм Мінска, на яго вежы і крыжы. Архітэктары ўсяго свету пішуць пра уніяцкія, базыльянскія, каталіцкія і г.д. культавыя будынкі, дзе сёння служаць па рытуалах маскоўскай патрыярхіі. Прыводзячы гэтую інфармацыю, я ні ў якім разе не хачу папракаць сённяшніх служыцеляў праваслаўнай царквы і тым болей заклікаць да новага захопу будынкаў. Але ж гэта гісторыя!

5. Можа, варта ўспомніць, што алтар уніятаў, грэкакатолікаў Беларусі і старавераў Расіі аднолькава адрозніваюцца ад узаконеных маскоўскім патрыярхам Ніканам? Ну не захацелі расійскія старавeры прыняць рэформы Нікана -- уцяклі на Беларусь, дзе таксама не прынялі гэтых рэформаў, а прызналі верхавенства Рыма!

Дык ці павінен беларускі парламент у XXI стагоддзі ўцягвацца ў суцяжніцтва папоў XVI--XVII стагоддзяў? Ці, можа, будзем перапісваць іконы, каб не трымалі святыя два пальцы ў малітве? Ці прымем кодэкс, які забароніць васьміканечны крыж як несанкцыянаваную сімволіку? А як будзем кваліфікаваць Крыж Еўфрасінні? Малатком згінаць ніжнюю перакладзіну пад канон Расійскай Імперыі?

Тады трэба Мінюсту ўсе падручнікі і альбомы з іконамі і выявамі храмаў забараніць, аштрафаваць, пасадзіць, выклікаць спецназ -- а як жа яшчэ з "несанкционированной символикой"? Замазаць мазаікі і роспісы, абадраць сцэны і малюнкі з кніг і музеяў...

Ці разумее беларускі парламент, куды вядзе яго дарога рэгламентацыі "традыцыйных" і "нетрадыцыйных" канфесій?

6.Ці разумее Міністэрства замежных спраў Беларусі, што чакае яго і Беларусь пасля ўвядзення драконаўскіх метадаў умяшання ў сферу духоўнасці? Ці ведае Адміністрацыя прэзідэнта і ўрад, што сусветная супольнасць не дазволіць адрадзіць часы крыжовых паходаў і спальвання раскольнікаў-стараверау?

7.Ці разумее група дэпутатаў (А.В.Ваганаў, С.Н.Гаварушкін і іншыя), што навязванне "новага погляду" на міжканфесійныя адносіны Беларусі выкліча неабходнасць забароны энцыклапедый і падручнікаў савецкага часу, бо там довады прыхільнікаў новага закону расцэньваюцца як "отвратительная поповщина" (Ул.Ленін)?

8.І нарэшце, ці разумеюць камуністы і іх прыхільнікі ў парламенце, што іх праваслаўна-атэістычныя погляды супярэчаць Леніну і Троцкаму, Сталіну і Праграме КПСС? Што "праваслаўны атэіст" азначае і "праваслаўны бязбожнік", і "антыхрыст", і "сатаніст", той хто выракся хрысціянства?

Дык хто ж вы -- правакатары канфесійнай варожасці ці непісьменныя, двоечнікі, якія незаконна атрымалі дыпломы ВНУ?

9. Каб заахвоціць да розуму, спрадвечнай талерантнасці ў нашай шматканфесійнай краіне, нагадаю прыклад гэтай экуменічнай талерантнасці.

Штогод на Беларусі і за яе межамі ўшаноўваюцца вялікія асветнікі браты Кірыла і Мяфодзій. Ушаноўваюцца ў першую чаргу праваслаўнай царквой. Успомнім апошнія радкі з іх біяграфій. 869 год. Кірыла і Мяфодзій вяртаюцца ў Рым. Кірыла неўзабаве захварэў і памёр. Папа ўзвёў Мяфодзія ў сан епіскапа і паслаў яго ў Маравію, дзе рымскі епіскап дажыў да 885 г.

Дык з якога часу трэба лічыць Беларусь "исконно канонической территорией" адной з цэркваў? Можа, не толькі беларускую мову, але і алфавіт трэба забараніць законам, бо складаў яго ватыканскі біскуп?

І зноў заўважу: я падтрымліваю праваслаўную царкву. Яна роўная сярод роўных: Бог у нас адзін, а шлях да храма ў кожнага свой. Хто ідзе ў касцёл, хто ў маліто ўны дом, хто ў храм, хто ў сінагогу. Галоўнае для мяне, што мы ў сэрцы з Богам, усёй душою і ўсім разуменнем з ім.

Я завяршаю евангельскім запаветам:

"На кожнай мове хай славяць Бога!"

Ісус доўгія гады прапаведаваў на "дзяржаўнай", афіцыйнай мове Іерусаліма. Але апошнія яго зямныя словы былі не на афіцыйнай, а на роднай, арамейскай: "Ілі, Ілі, лама савахфані?" Гэта значыць: "Божа Мой, Божа Мой! Для чаго ты мяне пакінуў?" (Матф. 27--46).

Кожнаму давядзецца плаціць за грахі і памылкі. Але самая жудасная кара -- за ўпартасць у грахах. Давайце ж думаць і выпраўляць памылкі, каб не адыходзіць з жыцця ў роспачы, што Бог нас пакінуў.

Іван ПАШКЕВІЧ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў… (Н.В.)

***************************************************

# Пазіцыя

Якаў ГУТМАН: (Народная Воля)

"Цяперашняя беларуская дзяржава праводзіць антысеміцкую палітыку"

Мой 57-гадовы суразмоўца Якаў Гутман узначальвае Сусветнае згуртаванне беларускіх яўрэяў, якое налічвае некалькі тысяч членаў у Злучаных Штатах, Ізраілі, Канадзе, Беларусі. Жыве ў Нью-Йорку (ЗША). Наездамі бывае ў Беларусі, апошні час даволі часта. "Шмат спраў, -- гаворыць Якаў. -- У Беларусі зараз надзвычай неспрыяльная сітуацыя для яўрэяў".

-- Якія праблемы?

-- Дзяржавай кіруюць людзі, з якімі наогул нельга пра штосьці гаварыць. Напрыклад, нам адмаўляюць у элементарным -- у дазволе на будаўніцтва мемарыяла загінуўшым падчас вайны яўрэям. Тое, што ўзвялі на "Яме" ў Мінску, гэта толькі пачатак. У свой час я сустракаўся з Замяталіным, калі ён працаваў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, перадаваў яму ў рукі ліст с прапановай пабудаваць мемарыял. Магчыма, Вы ведаеце, што за вайну на тэрыторыі Беларусі загінула больш як 800.000 беларускіх яўрэяў і 55.000 яўрэяў з краін Заходняй Еўропы. Нацысты забівалі яўрэяў, улады Беларусі забіваюць, вобразна кажучы, памяць аб ахвярах.

-- На якія сродкі вы плануеце будаваць мемарыял?

-- Калі дазвол будзе атрыманы, мы б маглі знайсці на Захадзе грошы -- людзі б працавалі, было б што плаціць праекціроўшчыкам, будаўнікам, гісторыкам -- тым, хто застаўся зараз зусім без сродкаў існавання.

-- Адкуль такія грошы?

-- Элі Візэль -- адзін з падпісантаў ліста, пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Ён самы знакаміты яўрэй Амерыкі. Пасля яго звароту да грамадскасці Захада ахвяраванні будуць. Э.Візэль сам прайшоў праз канцлагер. Калі амерыканцы будавалі музей Халакоста ў Вашынгтоне, які каштуе сотні мільёнаў долараў, ён быў першым старшынёй камітэта па Халакосту. У ЗША толькі адна з яўрэйскіх арганізацый збірае штогод каля 500 мільёнаў долараў. Яшчэ прыклад: 1 мільярд 250

мільёнаў долараў атрымалі не так даўно яўрэйскія арганізацыі са Швейцарыі, якая прызнала сваё супрацоўніцтва з нацысцкай Германіяй. Для вырашэння пытання патрэбна толькі палітычная воля кіраўніцтва Беларусі. Але яе няма.

-- У адным са сваіх зваротаў да чыноўнікаў вы заяўляеце, што перамены пачнуцца, калі мы пачнём паважаць памяць продкаў...

-- Яскравы прыклад: Конрад Адэнаўэр, першы пасляваенны канцлер Германіі, які падняў краіну з руін, у 60-я гады ў Вормсе, дзе не засталося ніводнага яўрэя, пачаў узнаўляць разбураную падчас вайны сінагогу. Калі паміраe сваяк, мы аддаём апошнія грошы, каб паставіць яму памятнік. Кіраўніцтва краіны, якое, прабачце за не зусім карэктнае параўнанне, дайшло да дзікунства і не хоча шанаваць памяць сваіх продкаў, не мае права называць сабе маральным. Дастаткова ўзгадаць стан могілак у Курапатах.

-- На ваш погляд, чаму вам працягваюць адмаўляць чыноўнікі?

-- Я лічу, што цяперашняя беларуская дзяржава праводзіць антысеміцкую палітыку. Тэма адмовы ў будаўніцтве мемарыяла далёка не адзіная: нам, напрыклад, не выдзяляюць зямлю пад яўрэйскія могілкі ў Мінску. Узровень жыцця краіны заўсёды вызначаўся па дзвюх рэчах: рынак і могілкі. Рынак вызначае матэрыяльны дабрабыт, стан могілак -- духоўнае здароўе. У Нью-Йорку, напрыклад, дзе я жыву, непадалёку ад майго дома ў Брукліне ёсць яўрэйскія могілкі, дзе можна знайсці надпісы "ваўкавыскае зямляцтва". У нашых продкаў з Беларусі першым грамадскім здабыткам у ЗША была зямля для могілак. У вялікім Мінску -- дзяржава не знайшла кавалка зямлі для яўрэйскіх нябожчыкаў.

-- Можаце прывесці іншыя прыклады антысемітызму, якія дэманструе дзяржава?

-- Сумнавядомая кніга "Вайна па законах подласці", якая створана па прынцыпах гебельсаўскай прапаганды, надрукавана ў дзяржаўнай друкарні.

-- Пасля выхаду гэтай кнігі ў свет вы, наколькі я ведаю, спрабавалі адстойваць свае правы ў судзе...

-- Дзяржава адмовілася прыцягнуць да адказнасці тых, хто адкрыта культывуе экстрэмізму і антысемітызму. Спачатку было рашэнне суда Савецкага раёна г.Мінска, потым яго прадубліравалі гарадскі і Вярхоўны суды.

-- У чым сутнасць судовых рашэнняў?

-- Суды прыйшлі да высновы, што кніга -- гэта навуковая праца і таму не падлягае судоваму разгляду. Не былі нават прынятыя да ўвагі лісты, падпісаныя навукоўцамі і спецыялістамі, -- доктарам гістарычных навук А.Грыцкевічам, доктарам юрыдычных навук М.Пастуховым, доктарам філалагічных навук А.Мальдзісам, доктарам філасофскіх навук У.Конанам, кандыдатам гістарычных навук А.Трусавым. Буйнейшыя спецыялісты засведчылі, што навукі ў гэтым пасквілі ніякай няма. Калі аўтамабільны кароль Г.Форд у пачатку 20-х гадоў надрукаваў "Пратаколы сіонскіх мудрацоў", больш як сто вядомых амерыканцаў, уключаючы дзеючага і папярэдняга прэзідэнтаў ЗША, падпісалі заяву, у якой прызналі такую публікацыю падрывам амерыканскай дэмакратыі. Чаму я гавару менавіта пра дзяржаўны антысемітызм? Таму, што праводзіцца ён не прыватнымі асобамі, а дзяржаўнымі ўстановамі: прэзідэнтам, яго Адміністрацыяй, Саветам міністраў, Вярхоўным судом і пракуратурай. У кнізе "Вайне" змешчаны не толькі "Пратаколы", гэта энцыклапедыя антысемітызму.

-- Дарэчы, рускі філосаф Мікалай Бярдзяеў у сваёй кнізе лічыць ніжэй свайго гонару іх абвяргаць. Што вы думаеце на гэты конт?

-- Сутнасць "Пратаколаў" у тым, што яўрэі нібыта хочуць кіраваць усім светам, і што трэба рабіць, каб гэтага не адбылося. Друкаванне "Пратаколаў" у любой дзяржаве лічыцца антысеміцкай прапагандай. "Пратаколы" былі любімым цытатнікам у Насера, зараз яны актыўна друкуюцца у арабскіх краінах, якія стаяць на антыізраільскіх пазіцыях. Нацысты пачыналі сваю дзейнасць з іх друкавання і вывучэння ў школах....

-- Якая зараз сітуацыя з сінагогай, што ў Мінску на вуліцы Дзмітрава, якую нядаўна знеслі?

-- Сінагога -- адзін з помнікаў яўрэйскай і беларускай культуры. Там шанавалі Бога нашы продкі, у гэтым будынку працавалі В.Бялыніцкі-Біруля, іншыя вядомыя мастакі. Сінагога была ўнесена ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Закон гаворыць, што, калі аб'ект ёсць у спісе, ніхто без пастановы Савета міністраў нават цвіка вырваць з яго не мае права. Храм знеслі, зараз там будуецца элітны дом з падземным гаражом. Зразумела, што не для працоўных і сялян.

-- Ці былі спробы астаяць яе?

-- На сустрэчы з Міхаілам Дземчуком, тагачасным віцэ-прэм'ерам, іншымі членамі ўрада Беларусі летам мінулага года я заявіў у прысутнасці вялікай групы дэлегатаў з'езда "Бацькаўшчыны": "Калі вы разбурыце сінагогу, у мяне будуць поўныя падставы гаварыць, што талібы прыйшлі ў цэнтр Еўропы. Нельга дакранацца да храма. У трэцім тысячагоддзі толькі талібы зруйнавалі святыні -- статуі Буды. Пасля гэтага самалёты ЗША і іншых краін патлумачылі бен Ладэну яго памылку.

-- Сінагога разбурана, гэты факт вы таксама звязваеце з антысемітызмам?

-- Так. Дарэчы, ёсць шмат іншых паралеляў. Гітлер пачынаў з прапаганды антысемітызму: немцам дэманстравалі, хто іх вораг. Затым была "Крыштальная ноч", калі ў Германіі былі разбураны сінагогі, крамы, якія належалі яўрэям. Тое, што адбылося на Дзімітрава, на маю думку, гэта таксама "Крыштальная ноч".

-- Выпадак збіцця рэжысёра Хашчавацкага таксама частка гэтых паралеляў...

-- Так. Нацысты арганізоўвалі пагромы, масавыя расстрэлы ў дні яўрэйскіх святаў. Мала хто звярнуў увагу, што Юрыя, які быў членам савета дырэктараў Сусветнага згуртавання беларускіх яўрэяў, збілі ў першы дзень Ханукі. Сінагога на Дзімітрава разбуралася ў самыя святыя для яўрэяў дні -- паміж Днём пакаяння і Новым годам.

-- Лукашэнку тым не менш у студзені 2000 года запрашалі ў Ізраіль. Як вы да гэтага ставіцеся?

-- Гэта мяне непакоіць і выклікае непаразуменне. Калі сумнавядомы Йорг Хайдэр выказаўся на карысць Гітлера, Ізраіль адазваў свайго амбасадара з Вены. На словы павагі Лукашэнкі да нацысцкага фюрэра ніхто не адрэагаваў чамусьці ў Ізраілі. Наадварот, яму далі візу. Гэта адбылося ў той час, калі ў Беларусі выйшла кніга "Вайна па законах подласці". Парламент Ізраіля прыслаў сваіх наглядальнікаў на прэзідэнцкія выбары. Калі ў Мінску разбуралі сінагогу, у Тэль-Авіве адкрывалі новы будынак беларускай амбасады. Я не разумею палітыкі яўрэйскай дзяржавы ў гэтым пытанні.

-- Скажыце, калі ласка, а што робіць Сусветнае згуртаванне беларускіх яўрэяў для барацьбы з дзяржаўным антысемітызмам у Беларусі?

-- У англамоўнай і рускамоўнай прэсе ЗША на аснове інфармацыі наша арганізацыя надрукавала шэраг артыкулаў аб тым, што адбываецца на "яўрэйскай вуліцы" ў Беларусі. Падчас знаходжання Лукашэнкі ў Ізраілі В.Вячорка і я звярнуліся да кіраўніцтва яўрэйскай дзяржавы з прапановай не сустракацца з чалавекам, які страціў усялякую павагу на Захадзе.

Пасля разбурэння сінагогі на Дзімітрава я звярнуўся да кангрэсмена П.Дэйча, з настойлівай просьбай давесці інфармацыю аб сітуацыі ў Беларусі да членаў Кангрэса. У тым лісце было патрабаванне ні ў якім разе не адмяняць папраўку Джэксана-Вэніка ў адносінах да Беларусі. Я выказаў меркаванне, што Кангрэс ЗША павінен быць асабліва ўважлівым пры адмене папраўкі для Расіі, улічваючы яе стасункі з рэжымам Лукашэнкі. Я не настолькі самаўпэўнены думаць, што мой ліст вырашыў сітуацыю не на карысць Расіі. На мой погляд, прэзідэнту У.Пуціну сапраўды пара вызначыцца, хто яго сябры, -- Д.Буш, Т.Блэр, Г.Шродэр альбо ён -- "брат-блізнец Лукашэнкі", як сказаў пасол Беларусі ў Расіі У.Грыгор'еў.

Гутарыў Алесь СІЛІЧ.

# Міжнародны дзень абароны дзяцей

**У Беларусі, краіне з насельніцтвам 9,9 мільёнаў чалавек, дзяцей школьнага ўзросту крыху больш за 1,5 мільёна. Штогод у Беларусі нараджаецца меней за 100 тысяч дзяцей, а колькасць старых людзей павялічваецца. 56% сем'яў маюць толькі адно дзіця. 100 тысяч сем'яў увогуле бяздзетныя.**

Да чаго вядзе гэта тэндэнцыя?

Па-першае, дзеці становяцца найвялікшай каштоўнасцю, над імі "трасуцца", а ў выніку – квітнее інфантылізм падлеткаў, няўменне моладзі жыць, прымаць рашэнні... Па-другое, дэфармуецца этнас. Адзінае дзіця родныя стараюцца не дапусціць да "непрэстыжных" прафесій, таму "брудную" працу выконваюць прышлыя людзі, іх становіцца ўсё болей і болей... Па-трэцяе, набліжаецца рэзкае скарачэнне колькасці праца-здольнага насельніцтва – карміць і ўтрымліваць пенсіянераў хутка будзе някаму... Па-чацвёртае, колькасць хворых і паўхворых дзяцей з кожным годам становіцца ўсё больш і больш – няма натуральнага адбору. Школа са сваім 12-гадовым гарбеннем над партай падрывае здароўе вучняў, а вуліца – з бутэлькай віна і наркатычным шпрыцом – "дабівае" яго...

Пра што гэта гаворыць? Толькі пра тое, што абараняць трэба ня толькі тых дзяцей, якія ўжо народжаны, але думаць і пра дзяцей яшчэ не народжаных, патэнцыяльных. Ёсць Закон аб дэмаграфічнай бяспецы, ды ён мёртвы. Нам патрэбна разумная ДЭМАГРАФІЧНАЯ ПАЛІТЫКА. Асноўныя бюджэтныя сродкі павінны накіроўвацца не на армію, не на ўнутраныя войскі, не на сельскагаспадарчую вытворчасць і г.д., а на сацыяльныя патрэбы.

***Ну не сляпыя ж мы, каб не бачыць, што будзе праз пяць, дзесяць, дваццаць гадоў!*** *(Рабочы)*

# П. Севярынец застаўся лідэрам Маладога Фронту

Сойм моладзевай незарэгістраванай арганізацыі Малады Фронт на чарговы двохгадовы тэрмін абраў сваім лідэрам цяперашняга кіраўніка МФ Паўла Севярынца. У ягоную падтрымку прагаласавалі 89 дэлегатаў са 172. Канкурэнтам Севярынца на выбарах быў лідэр Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту Вадзім Саранчукоў, за якога свае галасы аддаў 71 дэлегат.

16 чэрвеня ў Менску прайшоў IV сойм Маладога Фронту. З 240 вылучаных дэлегатаў у працы ўзялі ўдзел больш за 170 маладафронтаўцаў, якія рэпрэзэнтавалі большасьць рэгіёнаў Беларусі. Менгарвыканкам адмовіў арганізацыі ў правядзеньні Сойму ў памяшканьні Палацу культуры "Сукно", таму форум адбыўся ў іншай залі.

Пасьля вітальных прамоваў да ўдзельнікаў Сойму з боку народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, лідэра Беларускай партыі Свабоды Сержука Высоцкага, Вячаслава Сіўчыка, Аляксея Караля, прадстаўнікоў іншых моладзевых арганізацыяў са справаздачамі выступілі лідэр МФ Павал Севярынец і ягоныя намесьнікі - Аляксей Шэін, Яўген Скочка, Сяржук Бахун, Андрусь Кавалёў, Аляксей Чарняеў і Андрэй Мялешка. Удзельнікі Форуму разгледзелі палітычныя пытаньні: замежная палітыка, аб'ядноўчая ідэя "Люблю Беларусь!", мясцовыя выбары, пасьля чаго прынялі стратэгію дзейнасьці на бліжэйшыя 2 гады. Лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец распавёў Рацыі пра асноўныя кірункі дзейнасьці ачоленай ім арганізацыі на бліжэйшы час.

**П.С.:** - У першую чаргу, вельмі вялікая ўвага будзе надавацца арганізацыйным пытаньням і ўмацаваньню самой арганізацыі. Як высьветлілася, гэта асноўная праблема МФ і менавіта з-за гэтага былі гарачыя спрэчкі на Сойме. Затым мы ставім задачу пашырэньня шэрагаў, працы з усёй моладзьдзю, не арыентуючыся толькі на нефармалаў ці студэнтаў, таму будуць новыя праграмы. Замежнапалітычная дзейнасьць будзе скарэктаваная істотным чынам у сувязі з апошнімі геапалітычнымі падзеямі й нашым прарывам у Эўропу, і будзе ставіцца за мэту дасягненьне такой колькасьці актывістаў, якая дазволіць урэшце падымаць усю краіну й нарасьціць столькі сілаў, колькі нам не хапіла 9 верасьня.

Паводле Паўла Севярынца, асноўным кірункам дзейнасьці арганізацыі мусіць стаць праца ў рэгіёнах. Апрача таго, Малады Фронт зьбіраецца актывізаваць супрацу зь іншымі моладзевымі структурамі дэмакратычнага кірунку.

**П.С.:** - Будзе спроба аб'яднаньня беларускіх маладзевых арганізацыяў, нацыянальнага руху на аснове ідэі "Люблю Беларусь!". Сойм МФ падтрымаў такую кааліцыйную стратэгію арганізацыі, і думаю, што бліжэйшым часам мы прыступім да яе рэалізацыі.

На выбарах кіраўніцтва Маладога Фронту Павал Севярынец спаборнічаў з кіраўніком Гарадзенскай арганізацыі МФ, якога падтрымалі некаторыя рэгіянальныя структуры. Выбары былі даволі напружанымі, але ўрэшце перамог Павал Севярынец. Ён прапанаваў Саранчукову заняць пасаду намесьніка кіраўніка Маладога Фронту, але той узяў самаадвод. У выніку намесьнікамі Севяранца сталі Аляксей Шэін, Сяржук Лісьнічонак, Яўген Скочка і два рэгіянальныя лідэры - Сяржук Бахун (Берасьце) і Віктар Шляхцін (Віцебск).

Г. Кесьнер (R.R.)

# Больш за палову жывых моваў хутка памрэ

Больш за палову жывых цяпер моваў свету самым хуткім часам можа цалкам знікнуць. Пра гэта паведамляецца ў справаздачы *UNESCO* «Атлас моваў свету, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення». Справаздача будзе прадстаўлена ў ААН. На думку інтэрнацыянальнага калектыву лінгвістаў, якія працавалі над ёю, пагроза знікнення навісла над больш як трыма тысячамі жывых моваў. Асноўнай прычынай такога працэсу, на думку навукоўцаў, стаецца «ціск, які чыняць найбольш распаўсюджаныя ў свеце мовы» – англійская, французская, іспанская, і, галоўным чынам, кітайская.

«Адміранне і знікненне моваў жывых стасункаў працягваецца тысячагоддзямі, але да цяперашняга часу гэты працэс ішоў досыць марудна», – адзначана ў справаздачы. «Апошнія трыста гадоў, – працягваюць аўтары Атласу, – прадэманстравалі рэзкі рост "сьмяротнасці" сярод моваў. І цяпер сітуацыя такая, што больш за тры тысячы моваў, на якіх некаторыя людзкія групы да гэтай пары размаўляюць, знаходзіцца пад вялікай пагрозай... ці ўжо паміраюць».

***Паважаныя Суродзічы! Просім пераслаць Вашую ахвяру на "Беларускі Дайджэст"... Дзякуем!***

# Ня было мовы пра ізаляцыю Беларусі

*Размова зь міністрам замежных справаў Польшчы Уладзімежам Цімашэвічам.*

**Спадар Міністар, ці – на Вашую думку – сёньняшнія адносіны паміж Польшчай і Беларусяй задавальняючыя? Калі ўзяць пад увагу супольную польска-беларускую мінуўшчыну, то, здаецца, у ёй не знаходзім прычынаў такіх халодных узаемадачыненьняў.**

Цяжка быць задаволеным зь сёньняшняга стану ці якасьці польска-беларускіх адносінаў. Папершае, мы зьяўляемся суседзямі. Па-другое, у абедзьвюх краінах жывуць шматлікія этнічныя групы, зьвязаныя з суседам. Урэшце, цэлая мінуўшчына хутчэй за ўсё павінна спрыяць добрым, цёплым ды інтэнсыўным стасункам паміж нашымі краінамі й народамі, а не перашкаджаць. Брак задавальненьня вынікае перш за ўсё з таго, што за апошнія некалькі гадоў разьвіцьцё палітычнай сытуацыі ў Беларусі, на жаль, расчароўвае. Ідзе ў такім накірунку, што цяжка ўтрымліваць нармальныя на найвышэйшым узроўні кантакты, адносіны, супрацоўніцтва, каб не ствaралася неўласьцівае й непажаданае ўражаньне адобрываньня таго, што ў беларускай рэчіснасьці здарылася й адбываецца надалей. Я маю на ўвазе вельмі недэмакратычна прымяняныя й выконваныя абавязкі ды правы выканаўчай улады, а асабліва прэзыдэнта. І, на жаль, кожны чарговы дзень ці тыдзень прыносіць новае пацьвярджэньне гэтай ацэнкі, якую мы хацелі-б зьмяніць, але не заплюшчваючы вочы на рэчаіснасьць. Калі гэтымі днямі ўзнаўляецца ў Горадні судовы працэс журналістаў газэты „Пагоня", якія нясуць крымінальную адказнасьць з тае прычыны, што крытычна выказваліся на тэму прэзыдэнта, калі ў Менску пасьлядоўна цягам апошніх некалькіх тыдняў адмаўляецца ў выдачы візаў на прабываньне тым асобам, якія прадстаўляюць Арганізацыю па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе, з выразным намерам ліквідаваньня такім чынам місіі АБСЭ, місіі, якая цягам многіх гадоў была свайго роду сумленьнем Эўропы, якая зьвяртала ўвагу на парушэньні правоў і дэмакратычных свабодаў у Беларусі. У нікога няма найменшых сумневаў, што адсутнасьць пашаны для свабоды выказваньня, для свабоды прэсы закранула гэтую дзяржаву, відаць, у найвышэйшай ступені ў сучаснай Эўропе. Зразумела, што ўсё гэта ня можа адобрывацца ў цэнтры Эўропы.

З другога боку, сёньняшні ўрад прадставіў вельмі адкрыта сваё жаданьне, сваю гатоўнасьць зрабіць польска-беларускія адносіны больш актыўнымі на іншых узроўнях ды ў іншых галінах, а менавіта: у галіне эканамічнага супрацоўніцтва, у галіне грамадзкага супрацоўніцтва, няўрадавых арганізацыяў, лякальнага супрацоўніцтва: тэрытарыяльных самакіраваньняў і мясцовых уладаў. У нас ёсьць некалькі прыкладаў гэтакага падыходу. Па-першае, мы былі гатовыя да сустрэчаў, датычных названых відаў супрацоўніцтва. Некалькі тыдняў таму ў Белавежы на запрашэньне прадпрымальніцкіх асяродзьдзяў у такой сустрэчы прымаў удзел віцэ-прэм'ер Марэк Поль. Зь беларускім бокам абмяркоўвалося менавіта эканамічнае супрацоўніцтва. Два тыдні таму ў маёй прысутнасьці й пры маёй – як міністра замежных справаў – згодзе, вынікаючай з прадугледжваных кампэтэнцыяў кіраўніка гэтага ведамства, была падпісаная дамова аб стварэньні эўрарэгіёну „Белавеская Пушча". Была яна заключаная паміж мясцовымі ўладамі тэрыторыяў, якія акружаюць Белавескую Пушчу ў абедзьвюх краінах. Разьвіваецца культурнае супрацоўніцтва. Важныя сёлетнія падзеі, якія ўжо за намі з удзелам гасьцей зь Беларусі - гэта хаця-б Фэстываль Беларускай Песьні ў лютым ці нядаўнія Дні Царкоўнае Музыкі ў Гайнаўцы. Так што кантактаў ёсьць нямала. Тым ня менш гэтае выказваньне мушу закончыць тым, з чаго яго пачаў – цяжка быць задаволеным якасьцю атмасфэры, асабліва на палітычным узроўні.

**У '99 годзе польскі Сэйм прыняў пасланьне да беларускага народу, у якім зьвярталася ўвага на такія каштоўнасьці, як будаваньне нацыянальнай тоеснасьці, як дэмакратычны лад жыцьця, як роля роднай мовы. Тады, Спадар Міністар, вы прадстаўлялі гэта ад імя Саюзу Левых Дэмакратычных Сілаў. Ці сёньня, з пазыцыі міністра замежных справаў, таксама глядзіце на ўсе гэтыя каштоўнасьці? І ці пасланьне да беларускага народу сустрэлася зь нейкім водгукам зь беларускага боку?**

Я не прыгадваю сабе рэакцыі, у тым сэнсе, каб мы сустрэліся зь нейкім зацікаўленьнем, а асабліва адабрэньнем. Па-другое, як чалавек, зразумела, я падтрымліваю ўсё, што тады гаварыў. Сёньня, прадстаўляючы пазыцыю польскага ўраду, я не магу выразна сказаць, што сёньняшні ўрад падтрымлівае тагачасную сэймавую пастанову, таму што, папросту, гэтай справай урад не займаўся, значыць, ніякім чынам ня вызначыў свае пазыцыі. Тым ня менш, тыя каштоўнасьці, пра якія гаварылася ў гэтым парлямэнцкім пасланьні, захоўваюць унівэрсальную каштоўнасьць: унівэрсальную гэтак у часавай прасторы, як і геаграфічнай. Гэта агульначалавечыя каштоўнасьці, ці каштоўнасьці ўсіх нацыяў, народаў, этнічных групаў. Зразумела, Беларусы маюць поўнае права самастойна пастанавіць, ці хочуць, каб у іх дзяржаве публічна ў ведамствах ужывалася беларуская мова, ці нейкая іншая. Гэта іх вольнае права, хаця я асабіста ня быў-бы цалкам упэўнены, ці гэты народ - так як многія на прасторы былога Савецкага Саюзу – русыфікаваны, дастаткова ўсё разумее, каб супраціўіцца зразумеламу камфармізму й своеасабліваму апартунізму, які палягае на тым, што многім Беларусам, праўдападобна, лягчэй гаварыць па-расейску, бо гэтаму вучылі іх цэлае жыцьцё, і многія зь іх мусілі-б вучыцца сваёй роднай мове. Трэба мець разбуджаную сьвядомасьць уласнай нацыянальнай тоеснасьці, каб узяць на сябе высілак працягваньня традыцыі. Але я паўтараю – гэта Беларусы самі вырашаюць. Затое нельга таго самага сказаць пра асноўныя стандарты й каноны з галіны чалавечых і грамадзянскіх правоў ды свабодаў. Досьвед паказвае, што, чым менш дэмакратычная палітычная сыстэма, чым менш дэмакратычны рэжым, тым лягчэй – зразумела, гаворачы іранічна – атрымаць уяўнае адабрэньне народу ці грамадзтва для гэтых недэмакратычных мэтадаў, таму што лягчэй прадухіліць ці задушыць крытычныя галасы. У гэтай галіне ў сучасным сьвеце стандарты ясна вызначаныя, асабліва ў Эўропе – на тым кантынэнце, дзе, беручы пад увагу мазайку народаў і дзяржаваў, хіба ў найбольш поўнай ступені былі дасягнуты высокі ўзровень пашаны для гэтых правоў і свабодаў. Трэба захоўваць аднязначную і, я сказаў-бы, досыць цьвёрдую пазыцыю, ды чакаць, што ўсе будуць згаджацца з гэтым падыходам.

**Ці Польшча можа нейкім чынам дапамгчы ў дэмакратызацыі жыцьця ў Беларусі, паколькі ў Польшчы, па-першае, ёсьць досьвед, калі гаварыць пра эканамічныя й палітычныя рэформы, а па другое, Польшча ў мінулым таксама атрымала такую падтрымку ад Захаду?**

Так, зразумела, што можам і хочам, але мусіла-б гэта сустрэцца з пацьверджаным зацікаўленьнем другога боку. Мы былі-б гатовыя даваць такую падтрымку зь як найлепшымі намерамі, бяз спробаў якой-колечы экспансіі польскіх уплываў. Папросту, мы былі-б вельмі радыя, калі-б гэты суседні братні народ меў лепшыя пэрспэктывы, меў большыя шанцы, меў мацнейшыя падставы да надзеі на лепшую будучыню. І, зразумела, мы маглі-б зрабіць супольна вельмі многа ў справе пабудовы гэтак званай грамадзянскай супольнасьці, значыць, такога грамадзтва, у якім, побач афіцыйных установаў, існуе шырока разьвітая сетка няўрадавых арганізацыяў; грамадзтва, у якім істотную ролю выконваюць тэрытарыяльныя самакіраваньні - сапраўды выбраныя людзі, а не прызначаныя. Мы маглі-б, калі-б было такое зацікаўленьне ў Беларусі, падзяліцца вельмі шчыра досьведам у пераўтварэньнях нашай эканомікі. Падкрэсьліваючы гэтую шчырасьць, я маю на ўвазе жаданьне дзяліцца ня толькі добрым досьведам, але таксама й дрэнным, таму што мы поўнасьцю разумеем, што ня ўсё ўдавалася нам зрабіць вельмі добра, і г.д. Пакуль што такога зацікаўленьня няма. Цяжка знайсьці партнэраў па беларускім баку да вырашаньня такіх справаў.

Хоць, зразумела, ёсьць пэўныя пытаньні, якімі ўжо сёньня можам супольна займацца, як напр. ахова асяродзьдзя. Пры нагодзе згаданага мною падпісаньня дамовы аб стварэньні эўрарэгіёну „Белавеская Пушча" была магчымасьць паразмаўляць з прадстаўнікамі навуковых інстытутаў, а таксама іншых, якія займаюцца пытаньнямі аховы асяродзьдзя па беларускім баку – гэта дасканала падрыхтаваныя, высока адукаваныя людзі зь ясным розумам, і можна ўжо хаця-б у гэтай галіне знайсьці поле да супрацоўніцтва. Ці нешта можа зьмяніцца ў будучыні? Я думаю, што так, таму што Беларусь – што можа яшчэ не да канца ўсьведамляе беларускае грамадзтва – апынаецца ў штораз цяжэйшым становішчы. Вынікае гэта м.ін. з таго, што Расея, зь якой Беларусь апошнімі гадамі – па ініцыятыве прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі – збліжалася, прыймае вельмі выразна іншую арыентацыю, гэтак у геапалітычных пытаньнях, як і ў рэфармаваньні ўласнае дзяржавы ды ўласнае эканомікі. Расея сёньня – гэта дзяржава, якая вызначае асаблівыя й сяброўскія адносіны з NATO; гэта дзяржава, якая вядзе інтэнсыўны дыялёг з Эўразьвязам; гэта дзяржава, якая апошнімі гадамі, пасьля прыходу да ўлады прэзыдэнта Пуціна, вырашыла пайсьці на радыкальныя эканамічныя зьмены, у тым ліку таксама ў галіне грамадзкіх фінансаў, і г.д.; гэта краіна, якая пры ўсіх, часта драматычных, праблемах умоцніла сваю эканоміку, дасягнула гандлёвага лішаку, зраўнаважыла буджэт і вярнула сваю дынаміку. І на гэтым фоне Беларусь зь вельмі традыцыйным, схэматычным падыходам да міжнароднай сытуацыі, якая фармулюе ацэнкі й меркаваньні пра дзяржавы, міжнародныя арганізацыі, палітычныя ці палітычна-вайсковыя саюзы, родам з падручніка партыйнага агітатара 30-гадовай даўніны, стаецца ўсё больш, з аднаго боку, анахранічнай, але, з другога боку – непазьбежнае сутыкненьне гэтых канцэпцыяў, гэтага спосабу падыходу да эканомікі з тым, што адбываецца ў Расеі. З гэтага пункту погляду Беларусь усё больш падвяргаецца ізаляцыі, і то ня толькі палітычнай ізаляцыі з боку дэмакратычнае Эўропы, але, відаць, таксама эканамічнай ізаляцыі з прычыны недастасаваньня эканамічных мэханізмаў Беларусі ды ўсіх атачаючых яе дзяржаваў, уключна з Расеяй.

**Часта гаворыца, што ў выпадку Беларусі ізаляцыя вынікае з самаізаляцыі. Гэтая ізаляцыя не прывяла аднак да хуткіх зьменаў, такіх, якіх чакалася. Ці аднак, нягледзячы на ўсе праблемы, пра якія вы, Спадар Міністар, гаварылі, ня варта працягнуць руку да Беларусі?**

Ня было, таксама ў мінуўшчыне, мовы пра ізаляцыю Беларусі. Гаварылася пра ізаляваньне кіраўнікоў гэтай краіны. І сёньня, у розных палітычных размовах, у якіх я прымаю ўдзел у Эўропе й па-за ёю, выразна гэта падкрэсьліваецца. Нікому не залежыць на ізаляцыі Беларусі й Беларусаў. Аднак пры даволі закрытым характары гэтай дзяржавы, пры праблемах, зь якімі сустракаецца незалежнае слова й думка, цяжка дайсьці з гэтай інфармацыяй да Беларусаў, што крытыцызм не датычыць Беларусі й беларускага народу, што крытыцызм датычыць найвышэйшай і найвузейшай часткі – дзяржаўных уладаў. Я нядаўна, а дакладней гаворачы, некалькі месяцаў таму даў інтэрвію дзяржаўнай беларускай тэлевізіі, у якім гаварыў і пра станоўчыя справы, і пра адмоўныя, значыць, я заявіў пра адкрытасьць і гатоўнасьць да супрацоўніцтва, але таксама не скрываў крытычнага погляду на тэму палітычнай сытуацыі. Гэтае інтэрвію было паддадзена палітычнай цэнзуры; гэтае інтэрвію было змантаванае маніпулятарскім спосабам з выразным намерам дасягнуць іншых высноваў, вынікаючых з майго выказваньня, чым у маім уласным перакананьні. Таму, калі апошнім часам беларуская тэлевізія хацела ўзяць у мяне чарговае інтэрвію, я адмовіў, гаворачы, што да часу, пакуль беларуская тэлевізія не папросіць прабачэньня ў сваіх гледачоў за палітычную цэнзуру выказваньня, я не магу сабе на гэта дазволіць. Я прыгадваю гэты адзін, але як-жа вымоўны прыклад, каб паказаць, як цяжка дайсьці да беларускага грамадзтва зь верагоднай інфармацыяй пра сутнасьць справы й намеры, пра займаную пазыцыю ды прапановы. Палітычная пазыцыя чужых дзяржаваў паказваецца беларускаму грамадзтву ў скрыўлены спосаб, што можа выклікаць сярод Беларусаў пераканаьне, што гэта яны, што цэлая Беларусь ізалюецца, а – я паўтараю – не адпавядае гэта намерам дэмакратыі заходняга сьвету.

**Калі ў Польшчы да ўлады прыйшлі левыя сілы, беларускія ўлады пачалі заяўляць пра спадзяваньні ў ацяпленьні адносінаў паміж Польшчай і Беларусяй. Ці Менск мусіць выканаць нейкія ўмовы, каб гэтыя ўзаемадачыненьні сапраўды зьмяніліся на карысьць?**

Ва ўсіх галінах і на ўсіх эрэзах, па-за кантактамі на найвышэйшым узроўні, ніякіх спэцыяльных умоваў няма. Трэба папросту ўзаемна хацець гэтага й пачынаць практычныя дзеяньні, каб былі вынікі. Але калі гаварыць пра кантакты на найвышэйшым узроўні ды пра палітычнае супрацоўніцтва, то пазыцыя ясная - неабходная зьмена ў падыходзе да асноўных чалавечых і грамадзянскіх свабодаў, такіх як: свабода слова,

г.зн. трэба пагадзіцца з тым, што ў сучасным сьвеце лічыцца стандарт, які не падвяргаецца дыскусіі. Трэба прыняць да ведама, што апазыцыя мае права існаваць і дзейнічаць, і належыць высьвятліць лёс зьніклых апазыцыйных дзеячаў. Такія рэчы ня маюць права існаваць, а калі здарыліся, то сьвет, беларускае грамадзтва, сем'і зьніклых асобаў мусяць даведацца, што сталася. Калі ў гэтым зьнікненьні – на што ўсё паказвае – прымалі ўдзел трэція асобы, то трэба прыцягнуць да адказнасьці тых, хто вінаваты ў гэтым.

**Спадар Міністар, 1 ліпеня 2003 году Польшча ўвядзе для ўсходніх суседзяў візавы абавязак. Такое патрабаваньне Эўразьвязу. Ці гэта не ўскладніць дадаткова й так дастаткова складаных польска-беларускіх адносінаў? Ці Польшча сапраўды будзе ў стане выдаваць такую агромністую колькасьць візаў так, як гэта прадугледжваецца?**

Мушу прызнаць, што візавы абавязак напэўна ня спросьціць падарожжаў у Польшчу, але нашым намерам ёсьць ажыцьцяўленьне гэтага пры дапамозе такой сыстэмы, каб звычайны грамадзянін адчуў гэта ў як найменшай ступені, значыць, каб тыя людзі, якія – згодна зь інфармацыяй, сабiранай цэлым Эўразьвязам пра непажаданых іншаземцаў, пра асобаў, заангажаваных у нейкую злачынную дзейнасьць – каб усе тыя людзі, якія не знаходзяцца ў гэтым сьпісе, маглі лёгка атрымаць нашыя візы, каб мы, па меры магчымасьцяў, у найбольшай ступені прапанавалі ім візы шматразовага перасячэньня мяжы ды ўрэшце, каб гэтыя візы не былі дарагія. Я разумею, што ў краінах, распаложаных на ўсход ад Польшчы, таксама праблема аплаты за візы можа мець вялікае значэньне на практыцы, і асабліва ў Беларусі. Наш намер такі, каб правесьці гэта, магчыма, найбольш лагодным спосабам. Мы выдаем вялікія сродкі на разбудову нашых консульстваў, на павелічэньне іхных здольнасьцяў у прыманьні аплікацыяў візавых прапановаў. Шукаем партнэраў у тых дзяржавах у выглядзе турыстычных ці аўтамабільных бюро, якія, супрацоўнічаючы з нашымі консульствамі, мелі-б паўнамоцтвы ў прыманьні візавых прапановаў, каб ня трэба было ехаць далёка, каб можна было бяз чэргаў зрабіць гэта ўсё й г. д. Я паўтараю, з нашага боку мы пастараемся зрабіць усё, каб звычайныя грамадзяне адчулі гэта ў найменшай ступені.

Якія будуць у выніку кошты візаў, гэта будзе залежаць таксама ад нашых суседзяў, таму што напр. Расея, якая чакае ад нас нізкіх візавых аплатаў, сама ўводзіць вельмі высокія. Трэба заплаціць – у залежнасьці ад візы – ад 60 да 120 даляраў за гэтае права да перасячэньня расейскай мяжы. Мы ясна гаворым - у нас няма намераў уводзіць высокія аплаты, але яны мусяць быць на такім самым узроўні па абодвух баках. І калі напр. Беларусь вырашыць увесьці візавую сыстэму ў кантактах з Польшчай, то тут таксама павінен існаваць прынцып узаемнасьці.

**Асабліва Палякі ў Беларусі й Беларусы ў Польшчы баяцца, што будуць адарваныя ад Бацькаўшчыны.**

Гэта праўда. Я разумею гэта. Больш таго, разумею, што візавая сыстэма не зьяўляецца ідэальным вырашэньнем у змаганьні з рознымі паталёгіямі, такімі як злачынасьць, кантрабанда й г.д. Тым ня менш у Эўропе не ўдалося прыдумаць дагэтуль лепшай і больш спраўнай сыстэмы кантролю памежнага руху. І справа ня ў тым, што нехта нам гэта накідвае, але мы ўсьведамляем, што калі-б не ўвялі візавай сыстэмы, то - абыходзячы пытаньні, ці не перашкодзіла-б гэта ў нашым уступленьні ў Эўразьвяз - наступствы гэтага адчулі-б усе Палякі, таму што гэта азначала-б захаваньне рэжыму кантролю межаў паміж Польшчай і астатнімі краінамі Эўразьвязу. Кожная краіна, кожны народ мае права думаць пра сябе, пра сытуацыю сваіх грамадзянаў, і мы хочам, каб Палякі безь ніякіх праблемаў падарожнічалі па цэлай Эўропе. Да таго часу, пакуль, магчыма, у нейкай будучыні наступіць паразуменьне паміж пашыраным Эўразьвязам ды Расеяй, Беларусяй і Украінай, трэба будзе гэтую візавую сыстэму выкарыстоўваць.

**Спадар Міністар, ці ў будучыні Беларусь можа стацца стратэгічным партнэрам Польшчы, як цяпер такім партнэрам ёсьць Украіна альбо Летува?**

Гэта праўда, што ў дачыненьнях з гэтымі краінамі ўжываліся й надалей ужываюцца такія азначэньні. Я не хачу іх, Барані Божа, адкідаць, але прызнаюся шчыра, што мяне больш цікавяць рэаліі, чым ужываныя словы. Пра стратэгічны характар партнэрства, значыць, асабліва важны характар стасункаў, сьведчыць клімат палітычных адносінаў, інтэнсыўнасьць грамадзкіх, культурных, навуковых кантактаў, маштабы й род эканамічнага супрацоўніцтва. Я сказаў-бы, што дагэтуль мы незадаволеныя поўнасьцю кантактамі зь ніводным з нашых суседзяў, таму што ўсюды выступаюць нейкія праблемы. Таму напр. мы традыцыйна давалі вельмі моцную падтрымку імкненьням Украіны да зблiжэньня са структурамі заходняга сьвету. Тое самае магу сказаць пра Летуву. Мы з ахвотай паводзілі-б сябе ідэнтычна ў дачыненьні да Беларусі, калі-б Беларусь зрабіла такі выбар. Я ня ведаю калі, зразумела, але ў мяне няма сумневаў, што гэтак станецца. Гэта гістарычная лёгіка таго, што адбываецца ў Эўропе. Надыдзе такі дзень, і тады Польшча з ахвотай падтрымае Беларусь пасьля прыняцьця рашэньня пра паварот да дэмакратычнага, вольнарынкавага сьвету, пра арыентацыю на эўрапэйскую інтэграцыю. Было-б гэта выключна з карысьцю для беларускага народу.

**Вялікі дзякуй, Спадар Міністар, за размову.**

**размаўлялі Ніна БАРШЧЭЎСКАЯ**
**"Камунікат" і Валеры САЎКО**

************************************************************

# Роздум...

**Якая музыка гучыць у сэрцы?**

Хто пра што, а я... пра гімн. Так, мяне вельмі хвалюе, якім будзе дзяржаўны гімн маёй Радзімы. Хутка ён будзе прыняты. Але што мы пачуем? І -- ці заспяваем? Як грамадзянін Беларусі, я хачу, каб гімнам стала ўрачыстая песня, якую кожны мог бы прыняць у сваё сэрца як сімвал гордасці і надзеі, як малітву. Хачу, каб гімн узвышаў душу, акрыляў імкненнем да дабра і свабоды, яднаў нас у нацыю, якую паважаюць ва ўсім свеце. Беларускі гімн павінен напаўняць нашы сэрцы пяшчотнай любоўю да роднай зямлі і мовы, рабіць нас вольналюбівымі, моцнымі і мудрымі, дружнымі і арганізаванымі!

Але дапускаю з вялікай доляй верагоднасці: менавіта такога гімна не дачакаюся. Хутчэй за ўсё з "варот" дзяржаўнай гімнічнай камісіі выйдзе перапеў старога "Мы, беларусы, з братняю Руссю", што якраз адпавядае афіцыйнай палітыцы ўлад: як найхутчэй зліцца з усходняй суседкай у адной "саюзнай" дзяржаве, дзе нашай краіне прыгатавана роль абрусеьлай правінцыі. Абрысы гэтай правінцыі прагдядваюцца ўжо зараз.

Сёння большасць народа нясе на плячах невыносны цяжар галечы, бяспраўя, безнадзейнасці. Нас вядуць і цягнуць у саюзную дзяржаву, а жыццё пагаршаецца. Мо якраз гэты народны стогн і будзе пакладзены на гімнічную музыку? Сумняваюся. Як сумняваюся і ў тым, што тыя, хто па-халуйску, па-здрадніцку прадаюць Бацькаўшчыну, дбаюць пра яе інтарэсы.

Нядаўна адзін мой калега, вяртаючыся з нарады ў рэктара, упікнуў мяне:

-- Когда же вы, белорусики, поймете: не важно, какая власть, важно -- быть при власти!

А знаёмы "палатнік" папрасіў:

-- Петр Николаевич, будешь звонить -- не говори по-белорусски!

-- Чаму? -- цікаўлюся.

-- Телефоны прослушиваются, а белорусские слова сделали ключевыми... Услышат -- тут же донесут кому надо, будто я националист!

Я здзівіўся такой палахлівасці дэпутата, а той патлумачыў:

-- Не удивляйся: белорусы все такие... Фактически мы выросли в русской колонии, под русской оккупацией... И, что греха таить, привыкли к русскому господству. Белорусская государственность и белорусская культура, поверьте, работягам не нужны: они свыклись со своим рабством, пьют, ругаются русским матом и не думают организованно бороться!.. А на этом рабстве, неорганизованности и страхе перед властью и расцветает президентская вертикаль. Пикни -- и в лучшем случае окажешься на улице...

Я слухаў, а ён працягваў сваё "откровение":

-- Да, я знаю, исчезают бесследно лидеры оппозиции, десятки -- по судам и тюрьмам. Все это видят, знают, но молчат... Я не дурак и не буду белой вороной! Да, я трус: что приказывают -- то и делаю...

Такія, як мой субяседнік, кupляюць свой дабрабыт, утрымліваюць пасаду цаной цынізму і эгаізму, разлажэння ўласнай душы. Такім усё роўна не толькі, якім будзе дзяржаўны гімн, а і ўсё, што звязана з нацыянальна-патрыятычнымі пачуццямі, імкненнем лепшых людзей краіны стварыць незалежную, квітнеючую, вольную Беларусь.

Нядаўна забягаю ў нашу бухгалтэрыю:

-- Добрай раніцы, дзяўчаты!

Намеснік галоўнага бухгалтара не вытрымлівае такога "нахабства" з майго боку:

-- Профессор, когда вы, наконец, научитесь нормально говорить? Надоело слышать этот ужасный диалект... Вот президент молодец, говорит по-нашему, культурно!..

У такіх выпадках і я не маўчу:

-- Прабачце, шаноўная: я люблю сваю мову, як і вы сваю, рускую. Чаму я павінен размаўляць па-вашаму? Вы ж у Маскве таксама на сваёй мове, а не на чужой гаворыце!

-- Не мудрите, здесь не дураки! Мы -- единый русский народ и должны говорить на одном языке. Бросьте свою "мову" в мусор...

Такому ўжо не здзіўляюся, хаця не абурацца нельга. Намаганне як мага хутчэй абрусіць беларусаў -- на жаль, нязменная лінія дзяржаўнай палітыкі нашых улад. Між тым няма народаў, якія б не цанілі незалежнасць і свабоду: менавіта таму нават трохвяковае татарскае іга не скарыла Русь!

Наша ж амаль спрэс рускамоўная вертыкаль ужо сёння паспяхова ператварае Беларусь у расійскую губерню. І вынішчэнне беларускай культуры прыкрываецца... дзвюхмоўем, ператвораным у рэальным жыцці ў рускае аднамоўе.

Антынацыянальны сённяшні рэжым бязлітасна душыць усё беларускае. Таму да болю здзіўляе маўчанне і бяздзейнасць, за малым выключэннем, нацыянальнай эліты -- нашых настаўнікаў і вучоных, паэтаў і пісьменнікаў, кампазітараў і артыстаў, філосафаў і журналістаў, дэпутатаў і палітыкаў. Такое ўражанне, што беларускі патрыятызм вымер, а размнажаюцца прыніжанасць і бездухоўнасць, угодніцтва і згодніцтва.

Менавіта бяздзейнасць інтэлігенцыі і зьяўляецца, на маю думку, галоўным фактарам, які дазваляе ўладам праводзіць такую палітыку, што вядзе да заняпаду нацыянальнай культуры і духоўнасці. Аб чым жа, аб якіх вялікіх мэтах нам тады спяваць у гімне, чым ганарыцца?

Неяк пачуў ад жанчыны, што пераехала ў Беларусь з Расіі:

-- Терпеть не могу вас, белорусов! Удивляюсь вашей бесхребетности: вам плюют в лицо -- вы молчите, вас душат -- вы терпите. Даже хуже -- от родного языка отвернулись...

Тут ужо я не знайшоў, што запярэчыць. Такія сюжэты -- на кожным кроку. Іх нельга не заўважыць: гэта рэчаіснасць. Тады чаму ж аб гэтым маўчаць нашы духоўныя "аракулы"? Тут у набат біць трэба, а не зацiскацца са страху накшталт высмеянага яшчэ К.Крапівой палахлiўца Тулягі...

Некаторыя нашы пісьменнікі абгрунтоўваюць сваю абыякавасць логікай, бясконца далёкай ад нармальнай: маўляў, мая справа -- літаратурная творчасць, а не палітыка...

Шаноўныя інжынеры чалавечых душ! З якіх жа гэта часоў мастацкая літаратура стаяла ў баку ад бед народных? Тым больш гэта дзіўна, калі ідзе вынішчэнне беларускай культуры, беларускіх выданняў. А хіба тое, што дзеецца зараз з вашай Бацькаўшчынай, не цікавіць і не хвалюе вас? Аб чым жа тады пісаць і што спяваць? Хто чытаць і слухаць будзе ваша беспрадметнае, прабачце, ціўканне?

Перад вамі неабсяжнае поле для сцвярджэння справядлівасці і дабра, а многія маўчаць, калі вырашаецца лёсаноснае: быць ці не быць Беларусі. Лічу, па-за палітыкай, надзённымі праблемамі жыцця не могуць нарадзіцца творы нацыянальнай вартасці. Колькі можна енчыць, плакаць, лямантаваць, трасучыся са страху і спадзеючыся, што "пранясе"? Не пранясе, калі і далей усе будзем спаць у шапку, маліць аб літасці і спяваць "алілуя" тым, хто нас топча. "Как мне надоели белорусские писатели: все просят, просят, просят..." -- прызнаўся неяк адзін з дзяржфункцыянераў, пастаўлены кіраваць беларускай культурай.

Уяўляю, якіх "станоўчых" герояў сучаснасці выдумаюць нашы пісьменнікі-маўчуны для будучых пакаленняў! Хутчэй за ўсё гэта будуць рускамоўныя члены БПСМ, рускамоўныя камуністы і рускамоўныя вертыкальшчыкі, што дзень і ноч дбаюць пра павышэнне ўзроўню жыцця рабочых і калгаснікаў...

Сённяшняя сітуацыя -- гістарычнай важнасці. Прыняцце дзяржаўнага гімна -- гэта не шэраговы акт. Гэта перш за ўсё (так павінна быць) павага і даніна нацыянальным традыцыям, гэта асвятленне шляху ў будучыню. Але ў сённяшніх варунках гэта наўрад ці будзе.

І ўсё ж хачу скончыць на аптымістычнай ноце: веру, не ўсе яшчэ развучыліся думаць, шукаць шляхоў да шчасця Беларусі. Хай, калі будзе прыняты не адпаведны нашым думам і пачуццям дзяржаўны гімн, у нашых сэрцах не згасацоь дарагія змалку, несмяротныя словы Купалы, Коласа, Багдановіча і іншых слынных паэтаў, што клічуць да новага жыцця, славяць родную зямлю, зычаць ёй шчасця. Вось якая музыка павінна гучаць у нашых душах:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага яснага дня!

Так сказаў наш геній Максім Багдановіч. І я яму веру.

Пётр КАСЦЮКОВІЧ, доктар тэхнічных навук. (Н.В.)

*******************************************************

**Нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць!..**

# Пішам, ходзім, просім, пераконваем...

Аб стане беларускай мовы на Гродзеншчыне з старшынём абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы Аляксандрам Місцюкевічам гутарыць наш карэспандэнт.

– Нядаўна адбыўся Круглы стол, які праводзіўся па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы. Якія пытанні разглядаліся падчас яго паседжання?

– Тэматыка непасрэдна датычыла стану беларускай мовы на Гарадзеншчыне, школьніцтва, а таксама аналізавалася стаўленне кіраўнікоў розных узроўняў вобласці да беларускай мовы.

– І што мы маем?

– Сытуацыя складаная. Відавочна, што дзяржаўная палітыка ў дачыненні беларускай мовы, яе развіцця, ужывання папросту фармальная. У Гродне няма ніводнай беларускай школы, падобная сітуацыя і ў іншых гарадах вобласці – Лідзе, Слоніме, Ваўкавыску... Як правіла, беларускамоўныя школкі захаваліся ў вёсках. Але калі глыбей зазірнуць у іх, то гэта малакамплектныя школы, прычым, часам толькі фармальна называюцца беларускімі, паколькі акрамя самой беларускай мовы ніякія прадметы ў іх па-беларуску не выкладаюцца.

– Чаму так?

– На Круглым стале мы прыйшлі да высновы, што першыя, хто нясе за гэта адказанасць – гэта кіраўніцтва вобласці і гарадоў. Ці чулі вы, напрыклад, каб кіраўнік нашай вобласці, горада, прадпрыемства, установы хоць раз выступаў на беларускай мове, праводзіў сход, размаўляў на вуліцы ці звяртаўся да грамадзян па тэлебачанню і радыё. Згодна нашай Канстытуцыі ў дзяржаве дзьве дзяржаўныя мовы, і калі да дзяржаўнага мужа грамадзянін звяртаецца па-беларуску, той абавязаны адказваць яму па-беларуску. Інакш чыноўнік папросту парушае беларускае заканадаўства і не мае права займаць дзяржаўную пасаду. А ў нас гэта робіцца скрозь: ад самага нізкага да самага высокага чына.Прывяду некалькі прыкладаў. Прадстаўнікі ТБМ звярталіся да многіх кіраўнікоў прадпрыемстваў і дзяржаўных устаноў з тым, каб паправіць становішча беларускай мовы. Да прыкладу, дырэктар аўтобуснага парку Пракопчык Іван Аляксандравіч ад сустрэчы наогул адмовіўся, а праз тэлефон сказаў, што чакае толькі загаду зверху, калі загадаюць аб'яўляць прыпынкі на беларускай мове, то гэта адразу будзе выканана. Падобнае прагучала і з вуснаў кіраўніка тралейбуснага парка. Праўда, дырэктары гэтых прадпрыемстваў дазволілі ўручыць кантоўныя падарункі вадзіцелям, якія працягваюць аб'яўляць прыпынкі па-беларуску.

Загадчык 404 філіяла «Беларусбанка» Бегуноў Алег Пятровіч на наш зварот заявіў: «Што вам не спіцца? У мяне няма супрацоўнікаў, якія валодаюць беларускай мовай». А яны ж абслугоўваюць насельніцтва і павінны валодаць як адной, так і другой дзяржаўнай мовамі.

А вось іншы прыклад. Кіраўнік міжраённага аддзела па арганізацыі дарожнага руху Юшкевіч Мікалай Андрэевіч сам валодае беларускай мовай і падтрымоўвае яе выкарастанне на сваім участку працы. Пасведчанні вадзіцеляў выдаюцца на беларускай мове, надпісы на спецаўтамабілях зроблены па-беларуску.

– Што з гэтага вынікае, на ваш погляд? Магчыма ў нас проста дрэннае заканадаўства, а людзі, як заўсёды, харошыя?

– Давайце паглядзім на заканадаўства. Галоўны архітэктар горада Гродна Анісімаў, на якога спасылаюцца многія кіраўнікі, дзе шыльды зроблены на рускай мове, нас наогул не прыняў, матывуючы сваёй занятасцю. Ягоная намесніца Таццяна Рыгораўна Аўсяннікава не валодае беларускай мовы. І як вынік – не выконваецца рашэнне Гродзенскага гарвыканкама №250 ад 18.03.1999 г. і адпаведнае рашэнне аблвыканкама аб выкарыстанні шыльдаў на беларускай мове. Адказу мы так і не атрымалі чаму змянілі шыльды на вуліцах Касманаўтаў, Захарава, Лідскай з беларускай на рускую. Самае смешнае, як пазней давялося высветліць, гэтыя назвы памянялі ў гонар прыезду спадара Селезнева з кампаніяй на саміт. Уявіце сабе парадаксальнасць і непрыстойнасць паводзінаў мясцовых чыноўнікаў. Нармальны чалавек за такі ўчынак згарэў бы з сораму, а гэтым хоць бы што.

Кіраўнік ЖКГ Гродна Арцем'еў Юрый Зыгмундавіч не супраць, каб шыльды былі на беларускай мове, але, па яго словах, ён не можа заставіць гэта рабіць сваіх падначаленых. Намесніца кніжнай крамы на вуліцы Ажэшкі Алена Анатольеўна Шчукіна на нашу просьбу аформіць аб'явы па-беларуску заўважыла: «А вы знаете, что в США языка, индейцев не изучают».

– Непасрэдна з кіраўніцтвам горада вы сустракаліся?

– Так, гутарка ў нас была са спадаром Антоненкам, старшынём гарвыканкама. Ён удзяліў нам адну гадзіну на размову, і прама заявіў, што ведае пра Канстытуцыю, але толькі чатыры разы за сваю службовую кар'еру кіраўніка горада выступаў па-беларуску, сына свайго перавёў у рускамоўны клас. Маўляў, трэба прапагандаваць, займайцеся гэтым. Мы яму сказалі, што трэба пачынаць з вас і вы павінны агітаваць бацькоў, каб аддавалі дзяцей у беларускія класы. Дарэчы, існуе пастанова Міністэрства адукацыі РБ ад 27.08.2001г №48 «Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме школьнай адукацыі», згодна якой з 2002 навучальнага года прадугледжана пашырыць выкарыстанне беларускай мовы ў сістэме дашкольнага выхавання і сістэме школьнай адукацыі. Згодна гэтай пастановы нашы грамадзяне могуць атрымаць як сярэднюю, сярэдне-спецыяльную, так і вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Але пастанова застаецца пастановай, а старшыня гарвыканкама застаецца старшынём гарвыканкама. Яго на гэтую пасаду не народ абраў, а прызначыў прэзідэнт.

– І што плануе рабіць у данай сітуацыі ТБМ?

– Мы рэальна ўспрымаем тое, што ёсць, працягваем рабіць, што можам: пішам, ходзім, просім, пераконваем... Але самі разумееце, чаго такім чынам можна дамагчыся.

– У ТБМ ёсць свая праграма па развіццю і ўратаванню беларускай мовы?

– Гэтая праграма існуе яшчэ з пачатку 90-х гадоў. Гэта Закон аб мовах і распрацаваная навукоўцамі стратэгія развіцця беларускай мовы. Толькі дзяржавай яна дагэтуль не ўспрымаецца.

– Дзе ў нас у вобласці самая складаная сітуацыя са становішчам беларускай мовы?

– У гарадах, прычым, ва ўсіх гарадах вобласці. Мы спрабавалі высветліць прычыну. Адзін бацька нам сказаў: мая дачка хацела атрымаць адукацыю па-беларуску ў сферы гандлю, а дзе гэта можна зрабіць? Вось тут крыецца адказ на пытанне.

– Дзіўная рэч, што беларусы ўсё чакаюць нейкай каманды на тое, каб ужываць сваю мову штодзённа, на вуліцы, дома, у школе, на працы, інстытуце. Што гэта за феномен такі?

– Гэта сапраўды феномен. Прывяду вам яшчэ прыклад. Напачатку 90-х, калі ішоў працэс беларусізацыі, ведаў чалавека, які шчыра аддаваўся гэтаму, шмат рабіў, дапамагаў. А калі Лукашэнка правёў рэферэндум, ён стаў глядзець на мяне, як на ворага. Усё беларускае яму стала раптам варожым. А ён адгэтуль, наш, беларус, і бацькі ягоныя беларусы.

Нехта калі-небудзь павінен будзе расшыфраваць гэты феномен. Напэўна, гэта справа навукоўцаў. Я магу распавядаць яшчэ адзін выпадак з жыцця. Неяк хадзілі мы па арганізацыях і збіралі грошы на выданне газеты «Наша слова». У адным з гродзенскіх банкаў у кабінеце звярнуліся да траіх жанчын. Як высветлілася, яны ўсе прыезджыя. Адна з іх, руская па паходжанню, пражыўшая нейкую частку жыцця ва Узбекістане, заявіла нам, што не магла вывучыць узбекскі, у Расіі не здолела купіць кватэру, у Магілёве не хацела, а таму апынулася ў Гродне. Але вам, беларусам, не дам ні капейкі, паколькі вы – дурныя. Каб была ў вас Канстытуцыя такая, як у прыбалтаў, то вывучылі б мы беларускую мову і нікуды не дзеліся б. Узбекскую не вывучыла, а беларускую вывучыла б, нікуды не дзелася б. Але, маўляў, ваш прэзідэнт сам не выконвае Канстытуцыі, то чаго вы хочаце ад нас.

Сапраўды, пра што казаць, калі не выконваецца нават Канстытуцыя, якая ёсць.

– Можна, вядома, шмат казаць пра тое, што прэзідэнт не выконвае Канстытуцыі, што на яго глядзяць людзі. Але з другога боку, уявіце сабе, каб у Расіі, Польшчы ці Літве прэзідэнт не гаварыў на дзяржаўнай мове, хто яго пацярпеў бы. Такое адчуванне, што ў беларусаў сапраўды няма Бога ў душы...

– На жаль, так.

– Які лёс чакае беларусаў пасля гэтага, на вашу думку?

– Цяжка сказаць. Сумна ад гэтага.

– Аляксандр Іванавіч, а што вас, інжынера, застаўляе займацца праблемамі беларускай мовы?

– Я вельмі хачу, каб мае дзеці былі беларусамі. Каб Беларусь захавалася не проста як геаграфічная назва. Як сказаў некалі расійскі вучоны Г.Фёдараў: «Мова з'яўляецца імем нацыі...». Дадам – і імем нашай дзяржавы – Беларусь.

– Дарэчы, сябры ТБМ – гэта ў асноўным інтэлігенцыя, ці ёсць і рабочыя, сяляне?

– Большасць, канечне, інтэлігенцыя, але ёсць і рабочыя, ёсць і сяляне. Да прыкладу, узяць суполку ТБМ на прадпрыемстве «Гроднаэнерга». Там ёсць і інжынеры, і рабочыя, розныя людзі. Так паўсюдна.

М. КАРНЕВІЧ (Біржа інфарацыі)

# Вяртаньне

## У "Беларускім кнігазборы" -- Натальля Арсеньнева

Вось і вярнулася на Радзіму больш чым праз пяцьдзесят гадоў эміграцыі знакамітая беларуская паэтка, аўтарка шырокавядомых песень-гімнаў "Магутны Божа" і "У гушчарах" Наталля Арсеннева. Вярнулася, на жаль, не сама (у 1997-м яна памерла, не дажыўшы шасці гадоў да ста), а сваімі творамі: у залатой серыі нашай класікі "Беларускі кнігазбор" толькі што ўбачыў свет важкі том самага значнага, што выйшла з-пад яе пяра за 77-гадовы творчы шлях. Упершыню беларускі чытач пазнаёміцца з гвалтоўна адлучанай ад нас выдатнай паэткай XX стагоддзя, творчасць якой доўгі час была пад забаронай.

...Першыя вершы Н.Арсенневай з'явіліся ў друку, калі яна яшчэ вучылася ў вядомай Беларускай гімназіі ў Вільні. Незвычайны талент 17-гадовай гімназісткі адразу заўважыў выкладчык тагачаснай кузні нацыянальных кадраў пісьменнік Максім Гарэцкі. Ён добрым словам падтрымаў маладую паэтку, блаславіў у вялікую літаратуру.

Непасрэднасць успрымання жыцця, любасць да Бацькаўшчыны, людзей і ўсяго жывога на зямлі, тонкі лірызм сталі вызначальнымі рысамі яе творчасці. Усе падзеі свайго жыцця яна прапускала праз сэрца. Характэрныя для паэзіі савецкага часу рыторыка, лозунгавасць, "бурапеннасць" былі не для яе.

Вядомыя кампазітары беларускай эміграцыі Мікола Равенскі і Мікола Шчаглоў-Куліковіч заўважылі меладычнасць лірыкі Наталлі Арсенневай і паклалі на музыку многія яе вершы. Цяпер яны сталі агульнавядомымі і шырока спяваюцца ў беларускіх асяродках не толькі ў эміграцыі, але і на Бацькаўшчыне. Асаблівую папулярнасць набыла песня "Магутны Божа", якая прынята дэмакратычнай грамадскасцю як нацыянальны гімн Беларусі.

Чароўнай, поўнай глыбокіх пачуццяў лірыцы Н.Арсенневай адведзена ў кнізе найбольшая колькасць старонак. У другім раздзеле -- яе паэмы і вершаваныя апавяданні, напісаныя з пранікненнем у псіхалогію герояў. Чытач з цікавасцю пазнаёміцца таксама з вершаваным лібрэта гістарычнай оперы паэткі "Усяслаў Чарадзей", прысвечанай славутаму Усяславу Полацкаму, гаспадару першай беларускай дзяржавы.

У даволі сталым узросце, недзе ў 70-х гадах Н.Арсеннева ўзялася за адказны пераклад знакамітай паэмы эпохі Адраджэння "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Змешчаны на старонках кнігі гэты пераклад гучыць вельмі натуральна і паэтычна.

Пра Н.Арсенневу ў савецкім друку гаварылася толькі ў негатыўным плане. Цяпер мы можам з вуснаў самой паэткі даведацца пра яе долю і нядолю, пра складаныя перыпетыі яе жыцця. У кнізе змешчаны ўспаміны Н.Арсенневай пра сябе і яе мужа Франца Кушаля -- таксама асобу складаную і неадназначную. Добра дапаўняюць воблік паэткі яе пісьмы да розных асоб, гутаркі з ёю, а таксама згадкі людзей, якія ведалі спадарыню Наталлю, сустракаліся з ёю.

Шкада, што наклад кнігі невялікі, не ўсе зацікаўленыя чытачы змогуць яе набыць, каб наталіцца прыгажосцю паэтычнага радка самабытнай беларускай пісьменніцы...

Кастусь ГАДЫЦКІ. (Н.В.)

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Новая Зямля,** у трох мовах — беларускай, расейскай і польскай. Менск, 2002, 904 бач. Надзвычай люксусовае выданьне з прыгожымі малюнкамі.
2. **Кантакты і Дыялогі,** № 3-4, 2002, Менск, 65 бач.
3. **Камунікат,** № 4, 2001, Варшава, 44 бач.
4. **Czasapis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 6, Беласток 2002. 44 бач.
5. **Роднае слова.** Штомесячны навуковы і мэтадычны часопіс. № 4, 2002. Менск, 114 бач.
6. **Спадчына.** № 5-6, 2001, Менск, 226 бач.
7. **Натальля Арсеньнева.** Беларускі кнігазбор, Менск, 2002, 590 бач.
8. **Кара за службу народу.** Марыян Пецюкевіч, Беласток, 2001, 200 бач.



МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ





## Украіна

**Севастопаль.** Вечарына ў Севастопалі. 20 красавіка беларусы г. Севастопаля сабраліся на вечар паэзіі. Гучалі вершы класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, 120-годдзе з дня нараджэння якіх адзначаецца ў гэтым годзе, Цёткі , Максіма Багдановіча. Літаратурна-музычную кампазіцыю адкрыла старшыня праўлення гарадскога аддзялення Усеўкраінскага аб'яднання "Беларусь" Ала Гарэлікава. Сардэчна гучалі песні на словы любімых паэтаў у выкананні А. Якавенка, М. Глушковай, Т. Лушнікавай, Ю. Бекеша, А. Гарэлікавай, Б. Капцовай, З. Квас і іншых. На канцэрце дэбютаваў ансамбль беларускай песні нашага таварыства "Белая Русь" пад кіраўніцтвам Юлі Аскеравай. Шматлікія госці з вялікім задавальненнем пазнаёміліся з тэматычнай выставай кніг і цікавай калекцыяй народнай вышыўкі.

## Літва

**Вільня.** 6 красавіка 2002 года ў 162-ю гадавіну з дня нараджэння Францішка Багушэвіча клопатамі сяброў ТБМ Віленскага краю устаноўлены мемарыяльны знак на радзіме ў Свіранах. Тэкст на табліцы напісаны па-беларуску лацінкай, гэтак жа, як пісаў і друкаваў свае творы Ф. Багушэвіч. Бел-чырвона-белую харугвачку пад дошку выткала руская віленчанка А. Лучова. Яна ж ахвяравала і выяву Хрыста для памятнай дошкі. Асвяціў памятную дошку упіцкі святар кс. Ян Доўшкіс. А тым часам віленскія беларусы думаюць пра ўшанаванне Багушэвічавага імя і ў Рукойнах, у рукойнскім касцёле, дзе хрысцілі будучага абаронцу Беларусі. Паміж іншым, не так даўно і беларуская сталіца ўшанавала імя Францішка Багушэвіча. Ягоным імем названа плошча ля Тэатра музычнай камедыі. А яшчэ трохі раней ягоным імем назвалі адну са сталічных бібліятэк.

* * *

**Вильня.** 24 красавіка гэтага года па просьбе Прэзідэнта Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве Л. А. Мурашкі Літаратурны музей А. Пушкіна перадаў на карысць Згуртавання больш за 400 экспанатаў музея аб жыцці і дзейнасці ў Вільні Я. Купалы і Я. Коласа. Гэты ўчынак прысвечаны 120-годдзю з дзён іх нараджэння. Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве мяркуе адчыніць у Вільні беларускі літаратурны музей.

## Польшча

**Варшава.** 9 красавіка у 12 гадзін у Катэдры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта адбылася прэзентацыя трохмоўнага выдання "Новай зямлі" Якуба Коласа з ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча. У сустрэчы са студэнтамі і навуковымі супрацоўнікамі ўдзельнічаў перакладчык "Новай зямлі" на польскую мову Чэслаў Сенюх, а таксама пасол Рэспублікі Беларусь у Варшаве сп. Мікалай Крэчка. 19 красавіка прэзентацыю трохмоўнага выдання "Новай зямлі" ладзіла Пасольства РБ у Варшаве.

**Бельск-Падляшскі.** 24 красавіка дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы "Сцэнічнае слова" для вучняў сярэдніх школаў і студэнтаў ладзіла Беларускае грамадска-культурнае таварыства у Бельскім Доме культуры.

Да канца красавіка ў гарадской бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім можна было наведаць выставу выданняў Беларускага гістарычнага таварыства. Выстава была адкрыта да ўшанавання 84-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

## Латвія

**Рыга.** Першая выстава мастака Міхася Галынскага адбылася ў 1945 годзе. На ёй было прадстаўлена звыш 120 работ, зробленых мастаком яшчэ ў час вайны. 5 мая ў будынку Асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў Латвіі адкрылася яго персанальная выстава. Пазнаёміцца з творчасцю мастака мы змаглі дзякуючы самаахвярнай працы яго дачкі Аляксандры Міхайлаўны. Яна не толькі зберагла і захавала бацькаву спадчыну, але і падрыхтавала яго работы да экспазіцыі. Фінансавую падтрымку Аляксандры Міхайлаўне аказала Ліепайская дума, а ліепайская суполка "Мара" і Таварыства "Світанак" паклапаціліся аб тым, каб выставу ўбачылі і ў сталіцы. На адкрыццё выставы з Ліепаі прыехалі блізкія Аляксандры Міхайлаўны, а таксама прадстаўнікі "Мары" на чале з адным з кіраўнікоў суполкі В. Грыбоўскай. На свята прыйшлі і вучні рыжскай беларускай школы са сваім дырэктарам Ганнай Іванэ, і беларускія мастакі, сябры "Світанка", і прадстаўнікі латышскай творчай інтэлігенцыі, з якімі таварыства падтрымлівае цесныя стасункі. Сваю пашану выставе выказала і беларуская амбасада ў асобе першага сакратара Д. Шкурдзя. Пранікнёныя былі словы старшыні Таварыства "Світанак" Таццяны Казак, прафесара Латвійскага універсітэта Ілгі Апіне, музычнае віншаванне спявачкі Ганны Крупскай.

*Т. Касуха*

## Расія

**Сыктыўкар.** Па запрашэнню нашых суродзічаў з Комі прадстаўнікі "Бацькаўшчыны" наведалі святкаванне 5-х угодкаў Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусь". Аўтаномія "Беларусь" сталася адной з самых актыўных нацыянальных аб'яднанняў Комі: ніводнае культурнае мерапрыемства краю не абыходзіцца без нашых суродзічаў.

Святкаванне 5-годдзя беларускай аўтаноміі адбылося пры падтрымцы Міністэрства па справах нацыянальнасцяў Комі і дапамозе сябра арганізацыі, прадпрымальніка Віктара Сулкоўскага. Толькі дзякуючы В. Сулкоўскаму стала магчымай і паездка дэлегацыі ад "Бацькаўшчыны" і гурта старажытнай музыкі "Стары Ольса". Прывітальнае слова сказаў старшыня аўтаноміі Аркадзь Крупенька, які коратка, але грунтоўна акрэсліў дасягненні аўтаноміі за пяць гадоў дзейнасці Створаны аддзяленні аўтаноміі у Варкуце, Інце, Ухце, Саснагорске, Усінске і Траецка-Пячорскім р-не. На працягу 3 гадоў дзейнічае беларускі хор, які паспяхова выступае на культурных мерапрыемствах у Комі. Адзначаюць нашы суродзічы беларускія нацыянальныя святы, праводзяць дні беларускай паэзіі, беларускай кухні, святкуюць юбілеі сваіх сяброў, вядуць вялікую інфармацыйную работу. Праводзяцца семінары для кіраўнікоў аддзяленняў, шматлікія мерапрыемствы з іншымі нацыянальнымі аб'яднаннямі. Беларусам было прысвечана ўжо тры радыёперадачы "Лёс", якая арганізавана Міністэрствам па справах нацыянальнасцяў. Шмат інфармацыі пра Беларусь і беларусаў друкуецца ў газеце "Жыццё нацыянальнасцяў". Рыхтуюцца матэрыялы да выдання кнігі аб беларусах у Рэспубліке Комі, аб працы аўтаноміі. А ў Інце для ўсіх жадаючых арганізавана вывучэнне беларускай мовы. Пасля афіцыйнай часкі адбыўся святочны канцэрт.

# Пуцін настойвае на поўным аб'яднанні Расіі і Беларусі

Калі камусьці магло падацца, што падчас сустрэчы з лекарамі 13 чэрвеня Уладзімір Пуцін сказаў нешта лішняе, што яго ўвялі ў зман дарадцы, то цяпер гэтыя сумненні цалкам адпалі. 24 чэрвеня расійскі прэзідэнт недвухсэнсоўна паставіў пад сумненне далейшае існаванне Беларусі ў якасці самастойнай дзяржавы пры інтэграцыі дзвюх краін. Ён заявіў, што аб'яднанне Расіі і Беларусі магчымае толькі на аснове адзінай дзяржавы.

«А гэта азначае, што не павінна быць ні Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі, ні беларускага парламента, ні расійскага ўрада, ні беларускага ўрада. Павінен быць адзіны парламент (можна назваць яго Саюзнай думай, можна як заўгодна), павінен быць адзіны ўрад і адзіная краіна. Гатовы нашы партнёры да такога рашэння ці не?» — літаральна запатрабаваў адказу Уладзімір Пуцін.

Калі меркаваць па выказваннях, якія зрабіў А. Лукашэнка ў адказ на першую заяву расійскага прэзідэнта, то такі сцэнарый супрацоўніцтва беларускага кіраўніка не задавальняе, як, прынамсі, не можа задаволіць усё свядомае беларускае грамадства, для якога суверэнітэт краіны з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю.... Тым не менш, як бачым, расійскі бок у асобе Пуціна па-ранейшаму настойвае толькі на такім падыходзе. Але, нягледзячы на гэта, учора ж лідэр Расіі заўважыў, што рознагалоссяў паміж двума прэзідэнтамі няма. «Ёсць рабочы працэс, і трэба перастаць жаваць жуйку і вызначыцца, чаго мы хочам», — сказаў ён.

Паводле слоў Пуціна, дамоўленасць аб яго сустрэчы з Лукашэнкам застаецца ў сіле. Кіраўнік Расіі лічыць, што такая сустрэча магчыма пасля яго вяртання з Канады, дзе адбудзецца пасяджэнне «вялікай васьмёркі», не раней чым 28 чэрвеня, «да канца месяца».

Мы звязаліся з прэс-службай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзе нам пацвердзілі, што гэта сапраўды так. Аднак дакладная дата перамоў яшчэ невядомая. Нам таксама паведамілі, што афіцыйнай рэакцыі беларускага кіраўніцтва на словы Пуціна, сказаныя падчас прэс-канферэнцыі, пакуль таксама няма, і паралі чакаць прызначанай сустрэчы кіраўнікоў дзвюх краін.

Трэба меркаваць, што наўрад ці да гэтага часу беларускі бок выступіць з нейкай гучнай заявай. Сапраўды, расійскі і беларускі прэзідэнты за апошнія два тыдні сказалі нямала, і цяпер неабходна паўза, каб асэнсаваць усе заявы.

Тым часам па нашай просьбе выказванні Пуціна пракамэнтаваў старшыня Камісіі па заканадаўству і судова-прававых пытаннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Аляксандр Архіпаў

— Гэта, на мой погляд, прыватная думка Пуціна. І не больш. Такія пытанні ні расійскі, ні беларускі прэзідэнты вырашаць не будуць. Гэта выключнае права народа. Кожная з краін мае сваю канстытуцыю, паводле якой дзяржавы і павінны дзейнічаць. Магчыма, у Пуціна ёсць жаданне, каб Рэспубліка Беларусь увайшла ў склад Расіі ў якасці адной губерні. Але гэта толькі яго жаданне, і я не разглядаю яго словы інакш як палітычную заяву. Хаця ў Расіі існуе закон, які быў прыняты ў мінулым годзе і які прадугледжвае магчымасць уваходжання замежнай дзяржавы ў склад Расійскай Федэрацыі. Але гэта яшчэ нічога не азначае, бо такія пытанні вырашаюцца на рэферэндуме. А ўвогуле падобныя прызнанні Пуціна мне камэнтаваць вельмі складана.

— Як вам сама пастаноўка пытання, калі суверэнітэт Беларусі нават не бярэцца пад увагу расійскім бокам?

— Гэта пазіцыя Пуціна, і няхай беларусы разважаюць самі. Нават калі гэта пазіцыя групы адказных асоб ці расійскіх алігархаў. Я падкрэслю: статус нашай дзяржавы можа вызначыць толькі беларускае грамадства. І гэта наша права, выбіраць ці не той шлях, які прапануе расійскае кіраўніцтва. Мы — суверэнная дзяржава, якая прызнана ва ўсім свеце. Ю. **Ляшкевіч**, "Звязда"

# Зь "вялікай канфэрэнцыі" Ўладзіміра Пуціна

Выконваючы дадзенае летась абяцаньне, прэзыдэнт Расеі Ўладзімір Пуцін 24 чэрвеня сабраў у Крамлі каля 700 журналістаў. Так званая "вялікая канфэрэнцыя " праводзіцца другі раз. Было заплянавана больш за 30 пытаньняў. 18-е зь іх тычылася ўзаемадачыненьняў зь Беларусьсю.

Пытаньне журналіста: Якімі ёсьць асноўныя разыходжаньні між Вамі й Аляксандрам Лукашэнкам, наколькі яны вострыя й на чым мусіць фундавацца аб'яднаньне нашых дзяржаваў?

**Адказ У.Пуціна:** Ды ў нас аніякіх разыходжаньняў і няма, як ні дзіўна. Я выказаў свае думкі, ён уважліва выслухаў, будзем абмяркоўваць. Я скажу, пра што ідзе гаворка. Грамадзкасьць мусіць гэта ведаць. Рускі й беларускі народы - сапраўды брацкія народы. І падзяленьне на дзьве дзяржавы было неабгрунтаванае, шкоднае й згубнае. Гэта - ня крытыка. Што рабілі б у гэткай сытуацыі сёньняшнія кіраўнікі - яшчэ невядома. Мы змушаныя зыходзіць з нашых рэаліяў. Што мы маем? Дзьве незалежныя дзяржавы. Аб'яднаньне гэткіх блізкіх народаў павінна адбыцца ў межах аднае дзяржавы - не павінна быць ані Думы, ані ўраду Расеі. Мусіць быць адзіны ўрад, адзіная краіна. Ці гатовыя нашыя партнэры да гэткага рашэньня? Але ў дакумэнтах, якія нам перадалі, сьцьвярджаецца, што Беларусь - суверэнная, незалежная, і мае права вэта. Ці трэба спрачацца? Не. Гэта ўтрымліваецца ў дакумэнтах. Мы ж павінны гарантаваць і Расеі, і Беларусі ўсе гэтыя правы - у тым ліку, і права вэта. Бо інакш аніякага яднаньня не адбудзецца - Расея папросту паглыне Беларусь. Хаця б з тае прычыны, што эканоміка Беларусі складае тры адсоткі ад расейскай. У аб'яднанай Эўропе Эўрапарлямэнт прымае рашэньне, яно ўхваляецца ў краінах і робіцца законам. І выконваецца безумоўна. Ніхто ня скажа, што нехта навязвае рашэньні. Гэта сьціплы працэс, але эфэктыўны. Паглядзіце, што адбываецца: у некаторых краінах войны ішлі, дзяржавы распаліся, але цяпер драйфуюць у Эўразьвяз і там аб'ядноўваюцца. Чаго тады ваявалі? А справа ў тым, што ўступленьне ў Эўразьвяз адбываецца на дабрачыннай аснове. Я й кажу: давайце зробім, як у Эўразьвязе. Ясная, зразумелая працэдура, якая будзе гарантаваць інтарэсы Расеі й Беларусі. А сёньня што? Саюзны парлямэнт з шырокімі паўнамоцтвамі й незразумелымі мэханізмамі выкананьня. Мы гэтак дыскрэдытуем саюз. Няма аніякіх разыходжаньняў. Папросту прысьпеў час спыніцца жаваць гумку й вырашыць, чаго мы хочам.

################################################

**Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую *Ахвяру* на Выдавецкі Фонд нашае газэты!**



Тамара Тарасевіч і фрагмэнт яе ывстаўкі ў James R. Thompson Center у Чыкага, ЗША. Май, 2002.

## ТОЕ–СЁЕ...

На сёняшні дзень у Беларусі існуе 1219 друкаваных СМІ, уключаючы пяць інфармацыйных агентстваў, а таксама 174 тэле- і радыёпраграмы. Рэйтынг тэлепраграм навін дазваляе зрабіць высноў, што толькі трэць тэлегледачоў глядзяць нейкія навіны. Болей за палову Беларусі слухае 1-шы канал Беларускага радыё, які транслюецца па радыёкропках. З большым адрывам ад яго ідзе Радыё "Сталіца", у якога – самы шырокі ахоп рэгіёнаў. На трэцім месцы – "Русское радио". Што датычыць прэсы, тут з большым адрывам лідзіруюць "Советская Белоруссия" і "Комсомольская правда". У іх жа самая лепшая дынаміка росту чытацкай аўдыторыі: за апошнія чатыры гады іх аўдыторыя павялічылася ў 2 – 4 разы. Удвая вырасла кола чытачоў "Народнай волі".

Вядомая радыёстанцыя "Свабода" зусім нядаўна выпусціла паэтычны зборнік па выніках свайго праекта "Верш на свабоду", які працягваўся ўвесь мінулы год. Творы для праграмы прадставілі аўтары з усіх куткоў Беларусі і з пяці кантынентаў, нобелеўскія лаўрэаты (Чэслаў Мілаш, Віслава Шымборска) і паэты-выгнаннікі. Самаму маладому аўтару, Святаяне – дзесяць гадоў, найстарэйшаму, Максіму Лужаніну – дзевяноста два.

Выдавецтвы "Божым шляхам" (Лондан) і "Сафія" (Полацк) выпусцілі "Беларускі малітоўнік", укладзены айцом Аляксандрам Надсанам. Выданне змяшчае 784 старонкі і выйшла накладам 5 тысяч асобнікаў.

# Падрабязнасці

### Мулявіна падвяла хуткасць

Мастацкі кіраўнік "Песняроў" Уладзімір Мулявін па-ранейшаму знаходзіцца ў Рэспубліканскай бальніцы Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, так званай лечкамісіі. Вядомы спявак быў пераведзены туды з Беларускага навукова-даследчага інстытута траўматалогіі і артапедыі, куды яго даставілі пасля аўтакатастрофы і дзе яму была зроблена аперацыя.

На пераводзе Мулявіна ў прэстыжную клініку настаяла жонка песняра Святлана Пенкіна. У лечкамісіі -- бальніцы, якая, па словах Лукашэнкі, павінна стаць клінікай еўрапейскага ўзроўню, для хворых створаны лепшыя ўмовы. І сапраўды, рэанімацыя рэспубліканскай бальніцы значна адрозніваецца ад падобных аддзяленняў звычайных беларускіх клінік. Там абсталяваныя па еўрапейскім узоры палаты, там сучасная апаратура.

Лекары бальніцы адмаўляюцца камэнтаваць стан Мулявіна. Аднак нам удалося высветліць, што ніякіх змяненняў у бок паляпшэння яго здароўя, на жаль, не адбылося. Спявак па-ранейшаму варушыць толькі локцямі, кісці рук застаюцца без руху. У Мулявіна поўнасцю паралізаваны ногі. Амаль штодня кансультаваць тутэйшых медыкаў прыязджаюць спецыялісты Інстытута траўматалогіі і артапедыі. Медыкі кажуць, што зрабілі ўсё магчымае, што залежала ад іх...

Сёння пакуль дакладна не вядома, дзе надалей спявак будзе праходзіць курс рэабілітацыі. Размовы аб тым, што Мулявіна перавядуць у Маскоўскі інстытут неўралогіі імя Бурдэнкі, пакуль застаюцца на ўзроўні чутак. Святлана Пенкіна, якая некалькі тыдняў таму запрасіла выпіску з гісторыі хваробы Мулявіна, ад размовы з журналістамі адмаўляецца.

Нядаўна супрацоўнікі УДАІ Мінскай вобласці назвалі прычыну аўтакатастрофы, у якую трапіў Уладзімір Мулявін. "Песняра" падвяла хуткасць. "Мерседэс", на якім рухаўся спявак, быў цалкам спраўны -- гэта высветлілася падчас агляду машыны, дакладней, таго, што ад яе засталося. Не выяўлена і ніякіх замінак, якія б перашкаджалі руху машыны. Старэйшаму інспектару УДАІ Мінскай вобласці Канстанціну Янушку медыкі дазволілі дапытаць Уладзіміра Мулявіна. Спявак сказаў, што не памятае, што з ім здарылася на шашы Заслаўе–Мінск, і таму нічога не можа патлумачыць.

Няшчасце з Мулявіным многія беларусы ўспрымаюць як асабістае гора. Нягледзячы на несуцяшальныя прагнозы, усе спадзяюцца, што Мулявін выкарабкаецца і будзе выступаць на сцэне.

Марыя ЭЙСМАНТ.

## У ТАРОНТА ПАМЁР МІТРАПАЛІТ БАПЦАРКВЫ ЎЛАДЫКА МІКАЛАЙ

Уладыку Мікалаю было 85 гадоў. Міхась Мацукевіч — гэта было ягонае імя пры нараджэньні. Ад 1951 году Міхась Мацукевіч жыў у Канадзе, дзе вырашыў вучыцца на сьвятара.

Пахаваньне Ўладыкі Мікалая адбылося ў Гайлянд Парку, Нью Джэрзі, ЗША.

Пахавальны абрад выканаў Украінскі Ўладыка Аляксандр з УАПЦ з Дэтройту ў асысьце некалькіх украінскіх і беларускіх сьвятароў.

# *Нам Пішуць...*

## АГУЛЬНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ у АНГЛІІ.

56-ы Агульны Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі (ЗБВБ) адбыўся ў суботу 22-га чэрвеня 2002 г. у Лёндане. Парадак Зьезду прапанавала Галоўная Ўправа ЗБВБ.

Зьезд адкрыла старшыня ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ сп-ня Л. Міхалюк і папрасіла а. А. Надсана памаліцца за памысьнасьць Зьезду. У сваёй малітве а. Надсон успамянуў Уладыку Мікалая з Тронта, Канада, які толькі што адыйшоў у лепшы сьвет.

Мандатная камісія ў складзе Я. Ясьвіновіча, М. Баяроўскага і С. Будкевіча праверыўшы картатэку і колькасьць прысутных сяброў упаўнаважаных да галасаваньня, дакляравала, што ёсьць кворум і Зьезд зьяўляецца важным.

У Прэзыдыюм Зьезду былі выбраныя М. Швэдзюк, С. Піткевіч і П. Шаўцоў. Сп. С. Піткевіч прачытаў пратакол папярэдняга Зьезду, а сп-ня Л. Міхалюк у зьмястоўнай справаздачы прывітала новых сяброў ЗБВБ і памедаміла ў смутку пра сьмерць іншых. Прысутныя ўстаўшы хвілінай цішыні ўшанавалі памяць памёршых сяброў.

Сп-ня Л. Міхалюк таксама нагадала пра дзейнасьць Галоўнай Управы ў розных беларускіх і іншых імпрэзах, як, для прыкладу, удзел у Зьезьдзе Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" ды інш. Управа ад імя ЗБВБ выслала прывітальную грамату каралеве В. Брытаніі Элізавеце II з нагоды яе залатога юбілею.

Справаздачы пра маёмасьць ЗБВБ прачыталі Я. Ясьвіновіч і С. Піткевіч, а справаздачу Нагляднай Рады прачытаў М. Баяроўскі. Дыскусія над справаздачамі была доўгай і цікавай. Абсалюторыюм уступаючай Управе было прынятае аднагалосна.

Новая Галоўная Ўправа ЗБВБ была выбраная ў наступным складзе: Сп-ня Л. Міхалюк — старшыня, А Сенько — сакратар, С. Піткевіч — скарбнік, сп-ня Т. Дзейко — сябра Ўправы

У наглядную Раду ўвайшлі Сп.Сп. М. Швэдзюк, М. Баяроўскі і С. Будкевіч.

Ад імя новай Управы ЗБВБ сп-ня Л. Міхалюк падзякавала Зьезду за давер прадаўжаць далейшую дзейнасьць на карысьць сяброў ЗБВБ і беларускага народу.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

І, як заўсёды, сяброўкі ЗБВБ прыгатавалі традыцыйны пачастунак. Пры чарцы віна час праляцеў вельмі хутка... а тады дарога дамоў...

*Сыльвэстар Будкевіч.*

* * *

## УВЯДЗЕНЬНЕ НОВАЙ ГРАШОВАЙ АДЗІНКІ

Гэты плян сумеснага дзеяньня ўраду Расейскай Фэдэрацыі, Цэнтрабанка ды ўраду Беларусі і Нацыянальнага банку па ўвядзеньні адзінай грашовай адзінкі /рускага рубля/ да 2005 г. падпісаны ў чэрвені гэтага году ў Маскве. Падпісалі дакумант прэм'ер Беларусі Г. Навіцкі і прэм'ер Расеі М. Касьянаў.

Паводле слоў Касьянава гэты дагавор азначае: адзіныя ўмовы эканамічнай і бюджэтнай палітыкі, адзіную мытную прастору, адзіны прынцып падаткаваньня і г. д.

Калі добра прыгледзіцца гэтаму дагавору, то робіцца відавочным, што ён кладзе аснову ліквідацыі Беларускай дзяржаўнасьці і ператварэньня Беларусі ў паслушную мараянэтку Расеі. Дагавор гэты карысны толькі Расеі, а не Беларусі. Расея будзе кантраляваць усю беларускую эканоміку.

Усё гэта паказвае на паварот да былога Савецкага Саюзу, дзе Масква над усімі рэспублікамі мела цалкавіты контроль...

*С. Будкевіч.*

## Эрнест ЯЛУГІН піша:

**...У нас да 80 працэнтаў насельніцтва адчуваюць сябе беларусамі, нягледзячы на дзікую антыбеларускую прапаганду і практыку. На жаль, значная частка нашай кіруючай эліты сапраўды, відаць, ёсць імперская агентура, задача якой аслабіць беларусаў як самастойны і самадастатковы народ, разбурыць краіну, каб яе лягчэй было здаць. Але шмат хто з чыноўнікаў проста думае, мусіць, што і ў новых умовах панавання іншай дзяржавы і паглынання іншым этнасам, калі яны дапамогуць прадаць Беларусь, то змогуць у аддзяку па-ранейшаму займаць сытныя кіраўнічыя пасады. Марнае спадзяванне. Гісторыя сведчыць, што ўладную эліту абарыгенаў новыя гаспадары спачатку выкарыстоўваюць на чорных справах, а затым усё роўна ліквідуюць. Такога дабра хапае свайго.**

## Рэпліка Уладзіміра СІЎЧЫКА…

Вельмі паважаю ўсіх прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, але мне здаецца, яны далёкія ад тых рэальных праблемаў, з якімі сутыкнулася беларускае грамадства ў цэлым і беларускія палітыкі ў прыватнасці. Нашыя інтэлігенты мне нагадваюць тых індзейцаў з вядомай показкі, што шукалі прычыну знікнення бізонаў у чым заўгодна, толькі не ў экспансіі "белых", якія вынішчылі гаспадароў прэрыі… Калі ў беларускага грамадства хопіць сілаў вырвацца з акупацыйнага поля расійскай імперыі, то, натуральна, нашая дзяржава будзе "спрэс беларускай". Іншая рэч, што гэты працэс не аднаго дзесятка гадоў, і ніякія іншыя сферы ўплыву, кшталту глабалізацыі, гэтаму працэсу перашкодзіць не змогуць. Разам з тым, калі беларуская эліта не здолее адэкватна асэнсаваць, у якім стане знаходзіцца грамадства, то можа знікнуць уся нашая нацыя…

***ВІНШУЕМ з 75-мі ўгодкамі жыцьця Др. ВІТАЎТА КІПЕЛЯ,***

***старшыню Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,***

і ***спадарыню ЗОРУ КІПЕЛЬ*** - шматгадовых працаўнікоў на беларускай ніве, аўтараў многіх беларусаведных публікацыяў і актыўных прадстаўнікоў беларусаведы на шматлікіх міжнародных канфэрэнцыях, самаахвярных беларускіх патрыётаў, шчодрых падтрымвальнікаў беларускай справы, узорных бацькоў і дзядоў - самыя шчырыя пажаданьні добрага здароўя, далейшага плёну і ўсякае памысьнасьці.

